● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 700 рублёў

9 студзеня 1996 г.
аўторак, №№ 6 — 7
(22809— 22810)




# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### З ДЗЕСЯЦІ АБ'ЕКТАЎ КУПЛЕНЫ ДВА. УСЁ Ж ЛЕПШ, ЧЫМ НІЧОГА

**Першы ў новым годзе аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасці ў Оршы папоўніў гарадскі бюджэт на 74 млн. рублёў.**

На продаж прапанаваліся дзесяць лотаў. Куплены два: кафэ «Хваля» і будынак былога магазіна. Гаспадаром будынка стала АТ «Мінскі лакафарбавы завод», кафэ купіў мясцовы прадпрымальнік за 26 млн. рублёў. На папярэдніх адзінаццаці аўкцыёнах (гэты — дванаццаты па ліку) было прыватызавана 40 аб'ектаў камунальнай уласнасці, а гарадская казна папоўнілася больш чым на тры з паловай мільярды рублёў. Аднак па выніках апытання, якое было праведзена прадстаўнікамі Міжнароднай фінансавай карпарацыі сярод аршанскіх прадпрымальнікаў, 73 працэнты рэспандэнтаў адным з фактараў, што стрымліваюць ад пакупак на аўкцыёнах, назвалі высокія стартавыя цэны. Неабходнасцю захавання профілю аб'ектаў і колькасці працоўных месцаў нездаволены 36 працэнтаў рэспандэнтаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

### СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ СНД БУДЗЕ ПАПЯРЭДНІЧАЦЬ ПАСЯДЖЭННЕ САВЕТА МІНІСТРАЎ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ САДРУЖНАСЦІ

**Сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці, запланаванай на 19 студзеня ў Маскве, будзе папярэднічаць пасяджэнне Савета міністраў замежных спраў краін СНД. Яно намечана на 12 студзеня.**

Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў Выканаўчым сакратарыяце Садружнасці. Беларусь на пасяджэнні будзе прадстаўляць міністр замежных спраў Уладзімір Сянько. На гэтай сустрэчы плануецца разгледзець пытанні калектыўнай бяспекі, прадстаўніцтва ў міжнародных арганізацыях, міратворчых намаганняў і іншыя.

Як паведаміла ўкраінскае інфармагенцтва УНІАН са спасылкай на начальніка ўпраўлення інфармацыі МЗС гэтай краіны Юрыя Сяргеева, пазіцыя Украіны па названых пытаннях «вызначана і застаецца нязменнай. Украіна разглядае СНД як кансультацыйны механізм, які ў першую чаргу павінен надаць імпульс развіццю эканамічных адносінаў». Як падкрэсліў дыпламат, Украіна не ўспрымае канцэпцыю пераўтварэння Садружнасці ў наддзяржаўны орган.

**УНІАН — БелаПАН.**

### АБАБРАЛІ НАВАГОДНЮЮ ЁЛКУ

**Таямнічыя зладзеі-верхалазы ў літаральным сэнсе слова ўкралі навагодні настрой, абрабаваўшы ўшчэнт (а лепш сказаць — да іголкі) ёлку ў райцэнтры Шуміліна на Віцебшчыне.**

Давялося мясцовым уладам паўторна закупіць увесь набор упрыгажэнняў для галоўнай лясной прыгажуні гарадка.

**Іван ВАЛІН, БелаПАН.**





*У невялічкай вёсачцы Масцішча Дзяржынскага раёна шмат гадоў жывуць у добрай згодзе шчырыя і працавітыя людзі — Станіслаў Аляксандравіч і Яніна Станіславаўна Сушкевічы. У іх прыгожыя дзеці і пяцёра жыццярадасных унукаў. Усе яны дружна ўчора прыехалі на юбілей свайго бацькі і дзядулі. З раніцы і да вечара ўвесь дом звінеў ад вясёлых дзіцячых галасоў.*

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# СЁННЯ Ў НАС СВЯТА.
## Дзень парламенцкай дэмакратыі

Пачатак працы новага саставу парламента для любой краіны з'яўляецца падзеяй. Тым больш для нас, грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія ішлі да разумення каштоўнасцей парламенцкай дэмакратыі даволі складаным шляхам. Такое свята бывае ў нас толькі раз у пяць гадоў, і парушэнне гэтага тэрміну з'яўляецца надзвычайнай з'явай для краіны, прычым дастаткова небяспечнай для дэмакратыі. Што, уласна кажучы, мы і адчулі, калі вясной не змаглі абраць патрэбны састаў парламента.

Дарэчы, дэпутат Валерый Шчукін, абраны ад партыі камуністаў, лічыць, што наш Вярхоўны Савет нельга называць парламентам — словам, што прыйшло з Захаду. Можа быць, і сапраўды не трэба спяшацца з пераносам заходніх паняццяў на нашу глебу, нам яшчэ да іх трэба дарасці. А Вярхоўны Савет мы зможам шчыра назваць парламентам, калі ён будзе не проста абраны, але дакажа, што ён з'яўляецца асобнай незалежнай і паўнамоцнай галіной улады ў Беларусі. Уладай прадстаўнічай, якую выбіраюць грамадзяне розных сацыяльных слаёў і перакананняў і якая адкрыта для грамадзян выконвае свае паўнамоцтвы. Для новага Вярхоўнага Савета Беларусі, як зазначае член прэзідыума ВС XII склікання Дзмітрый Булахаў, будзе вельмі карысным вопыт папярэдняга саставу нашага парламента, які быў апошнім Вярхоўным Саветам старой, савецкай Беларусі, і першым — Беларусі дэмакратычнай і незалежнай.

Аднак новаму Вярхоўнаму Савету таксама давядзецца пачынаць некаторыя справы фактычна з нуля. І ў прыватнасці — наладжваць узаемадзеянне розных галін улады, знаходзіць сваё месца і месца іншых у новай сістэме прэзідэнцкага кіравання. Таму мы, відавочна, будзем назіраць развіццё першага і ў цэлым натуральнага канфлікту, у якім будзе ўдзельнічаць Вярхоўны Савет, — паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі. Магчымы самыя розныя сцэнарыі яго развіцця, але аб'ектыўна было б лепш, каб яны ўкладваліся ў стандартныя еўрапейскія схемы, не даходзячы да абвастрэнняў. Рэальна ў нашага парламента няма шанцаў вярнуць статус-кво ўзору 1992-1993 гадоў, таму дэпутатам давядзецца трымаць дыстанцыю ў адносінах з Прэзідэнтам і патрабаваць таго ж ад апошняга.

Задача №1 новага Вярхоўнага Савета, такім чынам, — стварэнне сістэмы балансаў і стрымліваючых інстытутаў у гэтым першым, знешнім для яго канфлікце. Другі па важнасці канфлікт, які чакае новы Вярхоўны Савет, можна назваць унутраным. Гэта канфлікт паміж фарміруемымі партыйнымі фракцыямі і беспартыйным «балотам». На гэты, унутраны, канфлікт можа ўплываць канфлікт знешні і ў пэўнай ступені прадвызначаць яго вастрыню і кантралюемасць. Ад вырашэння гэтага ўнутранага канфлікту залежыць, ці будзе новы Вярхоўны Савет кіравацца прынцыпамі фракцыйных кампрамісаў і партыйнай дысцыпліны, што ў цэлым спрашчае і наладжвае парламенцкую дзейнасць, ці беспартыйныя ўнясуць у яе пэўны хаос і дамінаваць пачнуць карпаратыўныя і рэгіянальныя інтарэсы, якія часта не адпавядаюць агульнадзяржаўным. Перавага над імі прынцыпу партыйнага структуравання парламента ў тым, што фракцыі партый з'яўляюцца больш адкрытымі для грамадства і больш адказнымі перад ім. Тое, што ў новым Вярхоўным Савеце абрана беспартыйных не нашмат менш, чым партыйных, гаворыць аб тым, што гэты ўнутраны канфлікт можа быць істотным і важным.

Ён, дарэчы, ужо пачаў праяўляцца. І самае яркае таму пацвярджэнне — стварэнне фракцыі «Згода». У яе, дарэчы, выпадкова былі запісаны некалькі аграрыяў і камуніст. Створана гэтая фракцыя была пасля пэўных кансультацый у рэзідэнцыі Прэзідэнта і ўмоўна падзелена на рэгіянальныя падгрупы. Гэта дае магчымасць параўноўваць ствараемую фракцыю «Згода» з фракцыяй «Беларусь» у старым саставе Вярхоўнага Савета, якая выказвала інтарэсы ўрада В. Кебіча. Вельмі сімптаматычна, што ствараемая фракцыя «Згода» менавіта В. Кебіча вылучыла сваім прэтэндэнтам на пасаду спікера.

У цэлым калізію барацьбы за спікерскае крэсла варта разглядаць менавіта з пункту гледжання канфлікту паміж партыйнымі і беспартыйнымі фракцыямі, паміж двума названымі прынцыпамі структуравання парламента (партыйным і карпаратыўным). Выклікае задавальненне, што працэс пошуку кандыдатур на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета адбываецца даволі адкрыта і публічна. І хаця амаль усе партыйныя фракцыі выказалі свае амбіцыі, прапанаваўшы свае кандыдатуры, менавіта з'яўленне беспартыйнай групоўкі «Згода» можа аблегчыць шлях да кампрамісу паміж партыйнымі фракцыямі, якія, дагаварыўшыся, могуць прадыктаваць сваю волю. І «Згода», не выканаўшы сваёй місіі, распадзецца.

Тут, аднак, нельга забываць пра трэці канфлікт, які несумненна будзе ў новым Вярхоўным Савеце, — ідэалагічны. Прычым ён будзе больш востры, чым у ранейшым Вярхоўным Савеце, бо ў цяперашнім саставе парламента нашмат больш людзей з перакананнямі, якія, зразумела, прадстаўлены ў партыйных фракцыях. У новым Вярхоўным Савеце прадстаўлены і левыя, і правыя ідэалогіі, і нацыянальныя, і інтэрнацыянальныя. Хаця група беспартыйных дэпутатаў «Згода» і назвала сябе левацэнтрысцкай, рэальна яе ўдзел у гэтым ідэалагічным канфлікце будзе пасіўным: яна, хутчэй за ўсё, будзе астуджаць усякія ідэалагічныя сваркі. У гэтым бачыцца яе пазітыўны, стабілізуючы сэнс. Аднак мяркуецца, што сур'ёзныя ідэалагічныя спрэчкі ўзнікнуць пазней, калі парламент арганізацыйна аформіцца, прыме справаздачу па выкананню бюджэту мінулага года і зацвердзіць бюджэт на наступны, прыме адстаўкі і зробіць назначэнні кіраўнікоў сілавых структур, Генпракуратуры, Нацбанка і інш.

І апошні аспект, які хацелася б закрануць напярэдадні пачатку работы першай сесіі новага парламента — пытанне прынцыпу дзейнасці дэпутатаў (на пастаяннай аснове ці па сумяшчальніцтву) і парламента ў цэлым (будзе ён дзейнічаць пастаянна ці збірацца на сесіі вясной і восенню, як ужо прапануюць некаторыя). Грамадству больш карысна мець пастаянна дзеючы парламент як эфектыўны баланс адносна выканаўчай улады. Тым больш, што працы для новага Вярхоўнага Савета назбіралася шмат.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### ПРЭЗІДЭНТ СУСТРЭНЕЦЦА З НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКАМІ

Падпісаннем пагаднення аб пастаўцы ў Беларусь 7 мільёнаў тон нафты расійскімі кампаніямі «ЛУКойл» і «Юкас», відаць, не абмяжуецца ўдзел Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў справах нафтаперапрацоўшчыкаў Наваполацка. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, прыезд кіраўніка дзяржавы ў горад на Дзвіне чакаецца ў студзені, дзе ён плануе пазнаёміцца з дзейнасцю прадпрыемстваў нафтаперапрацоўкі і вялікай хіміі.

А праблем у вытворчых аб'яднанняў «Нафтан» і «Палімір» нямала. Іх магутнасці маюць патрэбу ў рэканструкцыі, тэхналагічнае абсталяванне патрабуе замены. Праўда, многае тут ужо робіцца, створаны сумесныя з замежнымі фірмамі прадпрыемствы, якія забяспечылі інвесціраванне работ па рэканструкцыі. У выніку прадукты нафтахіміі складаюць значную долю экспарту рэспублікі ў далёкае замежжа, і яна пастаянна расце. Аднак перашкодамі ў рэалізацыі распрацаваных праграм застаюцца мытныя бар'еры, практыка ліцэнзавання і падаткаабкладання. Да такой высновы прыйшлі ў Наваполацку, прааналізаваўшы сітуацыю на нарадзе вядучых спецыялістаў «Нафтана» з удзелам прадстаўнікоў урада і Адміністрацыі Прэзідэнта. Менавіта з задачамі па вырашэнню гэтых праблем і звязваюць нафтахімікі прыезд Аляксандра Лукашэнкі ў Наваполацк.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

### КАЛЯДЫ — ГЭТА МІР І ЛЮБОЎ

Па добрай традыцыі, устаноўленай продкамі, са з'яўленнем у вячэрнім небе першай зоркі праваслаўныя хрысціяне па ўсёй Беларусі накіраваліся ў храмы. А ў Мінску многія веруючыя задоўга да Святой ночы, калі свету з'явіўся вялікі цуд — нараджэнне Збавіцеля, сабраліся ў велічным Свята-Духавым кафедральным саборы. Тут напярэдадні 7 студзеня службу ў гонар Ражства Хрыстова ўзначаліў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

Урачыста заспяваў царкоўны хор «З намі Бог», і з алтара выйшаў Святы Уладыка з іерархамі Беларускай праваслаўнай царквы. Так пачалося свяшчэннадзейства, прызначанае ва ўсёй паўнаце праславіць прыход у гэты свет Сына Божага Ісуса.

Разам са шматлікімі прыхаджанамі на службе прысутнічалі Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і ўрада рэспублікі, члены дыпламатычнага корпуса, акрэдытаваныя ў Мінску.

Усімі сіламі процістаяць злу дабром і любоўю, садзейнічаць пераадоленню жыццёвых цяжкасцей заклікаў праваслаўных людзей у сваім урачыстым слове мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Потым з віншаваннем да прысутных звярнуўся кіраўнік дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка, у прыватнасці, адзначыўшы, што адраджэнне народа пачынаецца з духоўнасці, пажадаў веруючым добрага здароўя, дабрабыту і надзеі на будучыню.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

### У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ

Кабінет Міністраў пастанавіў зацвердзіць межы нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры», створанага раней прынятай ім пастановай ад 10 жніўня 1995 г. № 440, і яго ахоўнай зоны.

Браслаўскаму райвыканкому даручана ўстанавіць на мясцовасці межы ўказанага нацыянальнага парку.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

# КАНДЫДАТЫ ВЫХОДЗЯЦЬ НА СТАРТ

**_Сёння пачынае работу першая сесія Вярхоўнага Савета XIII склікання_**

Вось і скончыўся амаль месячны тэрмін, адведзены на падрыхтоўку да першай сесіі беларускага парламента новага склікання. Трэба сказаць, што фракцыям хапіла часу, каб правесці «артабстрэл» і «разведку боем» сваіх сапернікаў, максімальна накачаць як колькасна, так і якасна свае мускулы і як след падрыхтавацца да прыняцця першых адказных рашэнняў. Сёння ж настаў час падвесці папярэднія вынікі шматлікіх канфідэнцыяльных перамоў і кансультацый.

Так, найбольш масавай фракцыяй стала аб'яднанне дэпутатаў пад назвай «Згода», якое ўтварылася шляхам зліцця «незалежных» дэпутацкіх груповак А. Красуцкага і В. Цярэшчанкі. Гэта, праўда, з'явілася новым і крыху нечаканым паваротам у палітычным жыцці. У фракцыю, якую, дарэчы, узначаліў былы першы сакратар Віцебскага абкома КПБ, член Беларускай сацыялістычнай партыі Уладзімір Грыгор'еў, зараз уваходзяць 62 парламентарыі, што складае больш як 31 працэнт ад выбранага саставу парламента. На другім месцы аказаліся аграрыі: 48 мандатаў і, адпаведна, 24 працэнты. Камуністы, якія маюць 44 дэпутаты, занялі толькі трэці радок (22 працэнты месцаў). Лібералы і сацыял-дэмакраты маюць у новым парламенце адпаведна 11 і 8 працэнтаў галасоў. Пры такой раскладцы сіл практычна каля дзесяці дэпутатаў яшчэ не вызначыліся, аднак, ведучы ўласную гульню, яны наўрад ці змогуць сур'ёзна ўплываць на падзеі ў заканадаўчым органе.

Літаральна за апошні тыдзень праяснілася і сітуацыя з канкрэтнымі кандыдатурамі на пасаду спікера. Напрыклад, «Згода» вылучыла экс-прэм'ера Вячаслава Кебіча. Не выключана, што менавіта дзеля гэтага наогул і стваралася гэтае дэпутацкае аб'яднанне, бо прынцыпы і прадпасылкі яго нечаканага з'яўлення пакуль застаюцца малавядомымі. Тым часам станоўча на такі ход падзей адрэагаваў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, заявіўшы, што «мог бы працаваць з гэтай кандыдатурай».

Стварэнне падобнай фракцыі, яе якасны састаў, а тым больш выказванні кіраўніка выканаўчай улады на гэты конт далі назіральнікам і аналітыкам падставы сцвярджаць аб узбуйненні прэзідэнцкага лобі ў Вярхоўным Савеце. Адначасова пацвердзіліся даўнія чуткі, што Аляксандр Лукашэнка змяніў свае ранейшыя адносіны да былога саперніка па прэзідэнцкіх выбарах і бачыць В. Кебіча найбольш адпаведнай кандыдатурай на спікерскі «трон». Чуткі гэтыя пачалі распаўсюджвацца яшчэ пасля сустрэчы Прэзідэнта з экс-прэм'ерам, выкліканай скандалам з «вэксалямі». Тады сп. Лукашэнка нібыта запэўніваў сп. Кебіча, што не мае да скандалу ніякага дачынення, а тым больш не з'яўляецца яго ініцыятарам. Тым не менш, калі мы ўжо закранулі гэтую тэму, то трэба заўважыць, што адгалоскі тае гісторыі, што разгарэлася на старонках «Народнай газеты», стануць сёння прадметам роздумаў для многіх дэпутатаў, паколькі кропкі над «і» ў ёй не пастаўлены да гэтага часу. Але не трэба і прыніжаць шанцаў сп. Кебіча заняць месца кіраўніка парламента і стаць другой асобай у дзяржаве. Калі падчас тайнага галасавання яго сапраўды падтрымаюць члены фракцыі «Згода» (упэўнены, што сярод камуністаў і аграрыяў таксама знойдзецца нямала дэпутатаў, якія сімпатызуюць былому кіраўніку ўрада і могуць аддаць яму свае галасы), то ў такім разе Кебіч можа значна апярэдзіць сваіх сапернікаў.

У камуністаў на другую пасаду ў краіне спачатку прэтэндавалі два чалавекі: першы сакратар ЦК ПКБ, старшыня Савецкага райсавета г. Мінска Сяргей Калякін і кіраўнік фракцыі ПКБ Васіль Новікаў. Канчатковае рашэнне ў гэтым спрэчным пытанні вынес пленум ЦК Партыі камуністаў беларускай, які адбыўся 6 студзеня. Аднагалосна ўдзельнікі пленума выказалі давер С. Калякіну і палічылі, што ён мае больш шанцаў у барацьбе за права ўзначальваць беларускі парламент. Аднačасова тым самым былі развеяны і чуткі аб расколе ў партыі камуністаў, які нібыта быў справакаваны артадаксальнай часткай ПКБ.

Крыху раней адбылося пасяджэнне фракцыі Сацыял-дэмакратычнага саюза. Дарэчы, зараз гэтае дэпутацкае аб'яднанне афіцыйна будзе называцца Сацыял-дэмакратычнай фракцыяй «Беларусь». Сваім кіраўніком сацыял-дэмакраты абралі старшыню Партыі народнай згоды Леаніда Сечку, а змагацца за званне Старшыні Вярхоўнага Савета даручылі экс-міністру замежных спраў Беларусі Пятру Краўчанку. А вось фракцыя Аграрнай партыі ўжо даўно і, здаецца, адной з першых вырашыла пытанне з кандыдатурай на пасаду спікера, вылучыўшы свайго лідэра Сямёна Шарэцкага. У фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» таксама адбыліся пэўныя змены. Кіраўніком дэпутацкага аб'яднання на мінулым тыдні стаў Генадзь Карпенка, а ў барацьбу за месца спікера лібералы, хутчэй за ўсё, уключаць таксама свайго лідэра Станіслава Багданкевіча.

Як бачым, паступова прозвішчы ўдзельнікаў спікерскага спрынту становяцца вядомы шырокай грамадскасці. Сёння канчаткова высветляцца імёны астатніх прэтэндэнтаў. Тэарэтычна ініцыятарамі вылучэння іншых кандыдатур, як незалежных, так і прадстаўнікоў ужо існуючых фракцый, могуць стаць дэпутаты, якія не вызначыліся да гэтага часу ў сваіх палітычных сімпатыях.

Аднак марна было б чакаць, што барацьба абмяжуецца толькі выбраннем Старшыні Вярхоўнага Савета. Яшчэ ёсць тры пасады яго намеснікаў, а таксама кіраўнікоў пастаянных парламенцкіх камісій, членаў Прэзідыума. Трэба меркаваць, што найбольш рэальныя шанцы стаць намеснікамі старшыні будуць мець аўтсайдэры барацьбы за спікерскае крэсла. А вось што датычыцца падзелу месцаў у камісіях, то тут барацьба можа быць самай непрадказальнай як у дачыненні да прэтэндэнтаў, так і да палітычных сіл, што будуць імкнуцца ўзмацніць праз камісіі свой уплыў у парламенце.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# НЕ ПАЗБАЎЛЯЙЦЕ ДЗЯЦЕЙ БУДУЧЫНІ

Вярхоўны Савет 13-га склікання — гэта заканадаўчы орган, выбраны ўжо ў капіталістычнай Беларусі, паколькі папярэдні — 12-га склікання — за пяць з паловай гадоў сваёй дзейнасці пазбавіў працоўных рэспублікі забяспечваемых пры сацыялізме правоў на працу, жыллё, адукацыю, самакіраванне, сацыяльную абарону, адпачынак, культуру, уласнасць, замацаваўшы ліквідацыю ўсяго гэтага буржуазнай канстытуцыяй, уведзенай у сакавіку 1994 года.

Найбольш яркім прыкладам капіталізацыі з'яўляецца прыватызацыя. Самае галоўнае ў гэтым працэсе — пазбаўленне працоўных часткі агульнанароднай уласнасці. Прычым менавіта той яе долі, якая падзяляе грамадства на багатых і бедных: з разліку на аднаго мільянера — дзесяць бедных (як у большасці капіталістычных краін планеты).

Пры сацыялізме мы, гаворачы словамі Уладзіміра Маякоўскага, без Расій, без Латвій жылі адзіным агульным чалавечым жыццём, але да 1996 года частка членаў грамадства, атрымаўшы чэкі «Жыллё» і «Маёмасць», выйшла з «калгаса». Што ж, гэта іх права. Але, атрымаўшы свой пай, г. зн. выдзеліўшыся з агульнанароднай уласнасці, яны страцілі сацыялістычнае права на бясплатнае жыллё, бясплатную вышэйшую адукацыю і бясплатную ахову здароўя, паколькі на прыватызацыю ідзе менавіта тая доля агульнанароднага набытку, даход ад якога траціўся на будаўніцтва жылля, навучанне ў ВНУ і ахову здароўя. Астатнія функцыі дзяржавы (абарона, грамадскі парадак, нагляд, аварыйна-выратавальнае забеспячэнне, грашовая сістэма, экалагічная бяспека і г. д.) распаўсюджваюцца на ўсіх грамадзян, незалежна ад іх адносінаў да грамадскай уласнасці.

Прыхільнік сацыялізму — Васіль Новікаў — на прэзідэнцкіх выбарах набраў чатыры працэнты галасоў, а праз паўтара года ПКБ — партыя сацыялізму — атрымала 22 працэнты мандатаў у заканадаўчым органе: працоўныя капіталізмам насыціліся.

Крыўды быць не павінна: з агульнанароднай уласнасці выходзілі добраахвотна — сілай браць чэкі нікога не прымушалі. Больш таго, атрымаўшы чэкі, грамадзяне Беларусі пазбавілі бясплатнага жылля, адукацыі, аховы здароўя не толькі сябе, але таксама дзяцей і ўнукаў, на якіх гэтыя чэкі налічваліся.

Дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання на першае арганізацыйнае пасяджэнне нарэшце склікалі, і, калі структурызацыя заканадаўчага органа не зацягнецца, то ў лютым 1996 года мы пачнём разгляд законапраектаў. На праходжанне законапраекта праз камісіі Вярхоўнага Савета, г. зн. на вывучэнне іх дэпутатамі, асабліва такіх складаных, як падаткаабкладанне і бюджэт, патрабуецца не менш месяца, аднак да пачатку работы Вярхоўнага Савета 13-га склікання праектаў першаступенных заканадаўчых актаў ад выканаўчай улады не паступіла, так што дата пачатку першай сесіі залежыць не ад Вярхоўнага Савета, а ад часу паступлення прэзідэнцкіх праектаў законаў. Што ж датычыць расцягвання агульнанароднай уласнасці, то фракцыя ПКБ унясе ў парадак дня першай сесіі пытанне аб прыпыненні прыватызацыі.

**Валерый ШЧУКІН, член ПКБ, дэпутат Вярхоўнага Савета.**

*г. Полацк.*

# «Імкнуцца не да яркіх выступленняў, а да эфектыўнай працы»

## Дэпутатам Вярхоўнага Савета XIII склікання выказваюць пажаданні:

### Мечаслаў ГРЫБ,

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання, дэпутат ВС трынаццатага склікання:**

— Хачу спадзявацца, што ў гэтым годзе і надалей кожная галіна ўлады — заканадаўчая, выканаўчая і судовая — будуць займацца сваёй справай. Сварыцца за ўладу няма ніякіх падстаў. Кожнай з іх хапае спраў, дзеянняў, паўнамоцтваў — няхай толькі працуюць: кожны на сваім месцы, і пры гэтым не перашкаджае іншаму.

Не сумняваюся: новы Вярхоўны Савет будзе рабіць усё, каб дасягнуць узгодненых дзеянняў, паразумення з выканаўчымі органамі ўлады, а таксама з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Гэта будзе адзіна правільны падыход. У краіне крызіс, эканоміка развальваецца, і нам трэба разам шукаць выйсце з таго тупіка, у які мы трапілі. Аднак гэта аб'яднанне сіл і намаганняў можа і павінна адбыцца толькі на падставе абавязковага выканання Канстытуцыі і заканадаўства нашай маладой суверэннай дзяржавы. Нам трэба часцей сустракацца, абмяркоўваць надзённыя пытанні і праблемы, ісці адзін аднаму насустрач — і тады не будзе ў грамадстве процістаяння і канфрантацыі. Ніхто, акрамя нас саміх, не выведзе нашу дзяржаву з крытычнага стану, ніхто нічога проста так не дасць — трэба разлічваць толькі на саміх сябе, на пошукі і ажыццяўленне ўзаемавыгадных пагадненняў.

У першыя дні работы парламента новага склікання нам трэба будзе вырашыць нямала важных і адказных пытанняў. Найперш — абраць Старшыню Вярхоўнага Савета і яго намеснікаў, членаў прэзідыума, сфарміраваць пастаянныя камісіі. Інакш кажучы, выбраць тыя органы, без якіх Вярхоўны Савет працаваць не можа. Па-другое, трэба разгледзець кадравыя пытанні, якія вынікаюць з указаў Прэзідэнта: маецца на ўвазе зацвярджэнне на сваіх пасадах некаторых намеснікаў прэм'ер-міністра, кіраўнікоў сілавых структур, прыняцце адстаўкі іх папярэднікаў. Пасля, я мяркую, неабходна будзе ўнесці змены ў заканадаўства аб падаткаабкладанні, разгледзець праект бюджэту на 1996 год. Аднак, наколькі мне вядома, выканаўчая ўлада не мае намеру пераглядаць падаткі, і бюджэт у асноўным сфарміраваны на аснове ранейшых падаткаў. Але ж вы ведаеце, наколькі яны недасканалыя, непамерныя, ды і крытыкуюць іх сёння літаральна з усіх бакоў...

### Дзмітрый БУЛАХАЎ,

**старшыня Камісіі па заканадаўству Вярхоўнага Савета XII склікання:**

— Новаму Вярхоўнаму Савету я пажадаў бы не рабіць рэвалюцый, захоўваць пераемнасць, мець мужнасць і мудрасць, не спяшацца з прыняццем рашэнняў, а прынятыя рашэнні даводзіць да канца, і кожнаму дэпутату памятаць аб тым, што прафесіяналам не становяцца з атрыманнем дэпутацкага пасведчання, што прафесіяналам можна стаць толькі тады, калі многа, доўга і цяжка працуеш над сабой. І яшчэ: імкнуцца не да яркіх выступленняў, а да эфектыўнай работы. А ў цэлым — поспеху ўсяму парламенту.

**— Як вы прагназіруеце лёс новага парламента?**

— Я не лічу, што аб'ектыўна існуюць умовы для «доўгатэрміновасці» гэтага парламента, іх няма. У гэтага парламента, як відаць, лёс будзе больш кароткі, чым тэрмін, адведзены яму Канстытуцыяй. Але я не сказаў бы, што яго праца будзе цяжэйшая, чым старога парламента. Стары састаў Вярхоўнага Савета пачынаў з нуля і закладваў тую самую базу, на якую прыходзяць сёння новыя дэпутаты, і ў гэтым сэнсе нашым пераемнікам будзе прасцей.

**— Як вы ацэньваеце вашых пераемнікаў па персанальнаму саставу?**

— Я думаю, што выявяцца яркія асобы, цікавыя палітыкі, добрыя спецыялісты, праявяцца талковыя юрысты, якія ўмеюць не толькі выступаць ля мікрафона, але і працаваць у чарнавым варыянце, бо 95 працэнтаў работы ВС — гэта праца, якой не бачна, якая за кадрам.

**— Як вы асабіста перадаяце свой вопыт новым дэпутатам?**

— Я цяпер актыўна працую з дэпутатамі новага склікання, спрабуючы ім перадаць усё, што ведаю, што напрацавана. Нашай камісіяй падрыхтавана вялікая колькасць праектаў, распрацовак, работу над якімі трэба працягваць. Улады прыходзяць і сыходзяць, а інтарэс дзяржавы больш даўгавечны, чым саставы Вярхоўнага Савета. Акрамя таго, мы перадаём ужо гатовую базу, падрыхтаваных супрацоўнікаў, кваліфікаваных экспертаў, структуры, якія дапамагалі нам працаваць, кансультавалі. Акрамя таго, я з'яўляюся заснавальнікам «Дэпутацкага клуба» і лічу, што гэта адна з формаў абмену вопытам дзеля таго, каб каштоўнасці парламентарызму падтрымліваліся праз перадачу традыцый. Сама ідэя стварэння гэтага клуба — у імкненні стварыць арганізацыю, адкрытую для тых, хто валодае вопытам дэпутацкай дзейнасці, і для тых, хто хоча яго атрымаць.

### Уладзімір ЗАБЛОЦКІ,

**дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання:**

— Па-першае, я хацеў бы ўсіх павіншаваць з тым, што сесія адбываецца, што дэмакратычная плынь у рэспубліцы ўсё ж перамагла, і я спадзяюся, што Вярхоўны Савет будзе выконваць Канстытуцыю, законы і свае канстытуцыйныя абавязкі. Я маю надзею, што гэты састаў парламента зробіць усё, каб закон выконваўся ўсімі. Па-другое, лічу, што трэба падкарэкціраваць Канстытуцыю, замацаваць у ёй, што дзяржаўная ўласнасць належыць народу, бо адмена Канстытуцыйным судом артыкула 10 Закона «Аб Вярхоўным Савеце» выклікае прававое бязмежжа. Гэта вельмі важнае пытанне. Акрамя таго, трэба зрабіць так, каб дзяржаўны сектар у эканоміцы працаваў на роўных умовах з недзяржаўным. Дзяржаўная ўласнасць і капітал павінны прыносіць прыбытак уласніку — народу. Па многіх разліках, прыбытак ад уласнасці дзяржавы складае каля 50 працэнтаў бюджэту. І гэта трэба ўлічваць пры падатковай, бюджэтнай палітыцы, развіваючы рынкавыя адносіны і прыватызацыю. Аб гэтым працэсе трэба будзе значна мяняць уяўленні, і хацелася б, каб ва ўсім гэтым новы састаў парламента разабраўся. Па-трэцяе, трэба было б выкарыстаць той патэнцыял і вопыт, які набыты саставам XII склікання. Перадаваць ёсць што.

### Яўген ЛУГІН,

**старшыня Сялянскай партыі:**

— Можна разлічваць, што Беларусь стане на шлях ператварэння ў прававую дэмакратычную дзяржаву і пачне праводзіць пэўныя рэформы. Я лічу, што шляху назад не будзе, само жыццё ў нас паказала, што гэтае таптанне на месцы паглыбляе эканамічны крызіс. Цяпер ужо ва ўрадзе ёсць людзі, якія пачынаюць гэта разумець. Напрыклад, міністр сельскай гаспадаркі Ляонаў лічыць непазбежным рэфарміраванне калгасаў... Адыгрываюць сваю ролю і замежны фактар, асяроддзе, у якім мы знаходзімся: усюды рэформы праводзяцца, там, дзе яны пачаліся раней, яны ўжо далі пэўны плён. У Чэхіі, Венгрыі, Польшчы людзі жывуць у 5—10 разоў лепш, чым у Беларусі, але мы не думаем, што яны ў 5—10 разоў працуюць лепш, чым нашы людзі. Значыць, не працуе сістэма. Аднак ёсць вялікі сацыяльны слой людзей, якім нявыгадныя гэтыя рэформы, якія карыстаюцца дзяржаўнай уласнасцю як прыватнай.

Я лічу, што фракцыя «Грамадзянскае дзеянне», у якую ўваходзіць і БСП і якая мае значную колькасць вядомых і адукаваных палітыкаў, можа выступіць у ролі генератара ідэй у Вярхоўным Савеце. І калі пераважная большасць парламентарыяў жадае карысці роднай Беларусі, то яны павінны падтрымаць лепшыя напрацоўкі, прыняць адпаведныя законы і начынаць дзейнасць па рэфарміраванню эканомікі.

### Уладзімір ГУДЗЕЕЎ,

**старшыня Усебеларускага клуба выбаршчыкаў:**

— Самае галоўнае, лічу, дэпутатам патрэбна як мага хутчэй дасягнуць прадукцыйнасці сваёй дзейнасці. Дзеля гэтага трэба арганізаваць шырокае дэпутацкае аб'яднанне, дасягнуць дамоўленасці паміж рознымі палітычнымі сіламі, абранымі ў парламент. Думаю, немалаважным фактарам у гэтай справе стане асоба спікера. Наш клуб разглядаў некалькі варыянтаў развіцця падзей, і мы прыйшлі да высновы, што найбольш адпаведнай фігурай большасці парламента з'яўляецца Сямён Шарэцкі. Вакол яго маглі б згуртавацца не толькі аграрнікі, але і іншыя цэнтрысцкія сілы. Але, як вядома, канчатковае рашэнне ўсё ж будуць прымаць фракцыі.

Сённяшнія дэпутаты, абіраючыся на свае высокія пасады, абяцалі выбаршчыкам прымаць і падтрымліваць тыя законапраекты, якія ў першую чаргу датычацца ўсяга грамадства. Такім чынам, думаю, ім трэба будзе кардынальна перагледзець выбарчае заканадаўства, увесці такі тэрмін, як адкліканне дэпутата, узмацніць кантроль за ходам выбараў. Патрэбна прыняць таксама закон аб мясцовым самакіраванні, якое б дзейнічала не на паперы, а на справе. Ну, і адным з першых рашэнняў падзяліць уласнасць на дзяржаўную і муніцыпальную. Думаю, гэта стане першым рэальным крокам для таго, каб паправіць справы ў эканоміцы Беларусі.

### Віктар ЦЯРЭШЧАНКА,

**дэпутат Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання, кандыдат эканамічных навук:**

— На дэпутатаў трынаццатага склікання выбаршчыкамі ўскладзена вялікая задача: заканадаўча вывесці краіну з крызісу, распрацаваць новыя механізмы яе ўстойлівага развіцця і павышэння на гэтай падставе ўзроўню і якасці жыцця народа. На першы план у сістэме галоўных прыярытэтаў вылучылася эканоміка. Без вываду эканомікі з крызісу, без яе аздараўлення нам не палепшыць становішча спраў у ахове здароўя, адукацыі, навукі, культуры, не абараніць пенсіянераў, маламаёмных слаёў насельніцтва і не падтрымаць правапарадак у грамадстве, не абараніць суверэнітэт. Палітыка і палітыкі павінны забяспечыць стварэнне максімальна спрыяльных умоў для вырашэння галоўных праблем сучаснасці.

Ці зможам мы, новы дэпутацкі корпус, стварыць працаздольны парламент? Упэўнены, што зможам і павінны. Выбаршчыкі ж, не адчуваючы рэальнай магчымасці ўздзейнічаць на макрапрацэсы, якія адбываюцца ў эканоміцы, грамадскім жыцці, прагаласавалі пераважна за тых, хто абяцаў лепшае жыццё і ў меншай ступені звярталі ўвагу на іх прыналежнасць да той ці іншай партыі. Насельніцтва вельмі хутка можа расчаравацца ў парламентарызме, калі ў Вярхоўным Савеце будзе пераважаць палітычная барацьба, а не карпатлівая работа над праектамі законаў па вырашэнню эканамічных праблем. Лічу, што дэпутаты павінны сканцэнтраваць усе свае намаганні на вырашэнні галоўных праблем — вываду краіны з крызісу, і перш за ўсё эканамічнага, на стварэнні заканадаўчай базы ў інтарэсах новай эканамічнай сістэмы і вырашэнні на гэтай аснове сацыяльных, прававых і іншых праблем на базе Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Парламент павінен стаць адзіным, кансалідаваным, згуртаваным, працаздольным, не разбітым па палітычных поглядах.

Рабочыя сустрэчы ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з кіраўнікамі ініцыятыўных дэпутацкіх груп і партый паказалі жаданне кіраўніка дзяржавы канструктыўна, узгоднена, на роўных працаваць для выпрацоўкі заканадаўчай базы з мэтай вырашэння праблем.

Я далёкі ад думкі, што ў парламенце, урадзе акажуцца ў новых умовах групоўкі дэпутатаў, кіраўнікоў, якія размаўляюць, што называецца, на розных мовах. Вострыя процістаянні паміж імі, якія калі і ўзнікнуць, то, напэўна, прывядуць Беларусь не проста да палітычнага крызісу, але да канчатковага эканамічнага краху, поўнай нестабільнасці і непрадказальнасці. І тады ўстанаўленне жорсткага аўтарытарнага рэжыму стане больш чым верагодным. Прычым, мала хто гарантуе, што гэты рэжым будзе здольны забяспечыць выхад з крызісу, павышэнне ўзроўню жыцця народа і абарону знешніх інтарэсаў дзяржавы. Пагадзіцеся, што змяненне твару беларускага парламента, павышэнне кампетэнтнасці і зместу дзейнасці, устойлівасць яго функцыянавання — абавязковыя ўмовы, без захавання якіх цяжка будзе пазбегнуць трагічнага развіцця падзей. Па саставу дэпутатаў мы маем парламент працаздольны, які ведае, чаго ён хоча і што рабіць, парламент, які можа працаваць у супрацоўніцтве з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, выканаўчай, судовай уладамі, з усімі здаровымі сіламі грамадства і які здольны раздзяліць з імі адказнасць.

Усе тры ўлады — заканадаўчая, выканаўчая і судовая, іх асноўныя дзеючыя асобы — адказныя перад народам і павінны ў роўнай ступені ісці на кансалідацыю і згоду дзеля будучыні Беларусі.

**Падрыхтавалі Валер КАЛІНОЎСКІ, Юрась ЛЯШКЕВІЧ і Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# НАВУЧЫ НАС, ДЗЯРЖАВА, ЛІЧЫЦЬ...

*З размовы з жанчынай 30 гадоў (яе сям'я складаецца з трох чалавек: яна сама, муж, дзіця — дзяўчынка 10 гадоў):*

*— Колькі грошай вы траціце на прадукты штомесяц? — пытаюся ў субяседніцы.*

**— Ведаеце, не лічу...**

*Я ўжо падумаў, што дастатак, высокая зарплата мужа дазваляюць жанчыне зусім не лічыць грошы. Цікавасць да жанчыны як асобы забяспечанай пачала прападаць. Ды пасля паўзы субяседніца растлумачыла:*

**— Не лічу таму, што трачу ўсё — і свой, і мужаў заробкі...**

*Пацікавіўся, што ж азначае «ўсё»? Жанчына атрымлівае (з усімі даплатамі) семсот (і гэта паўтары стаўкі!) тысяч рублёў. Муж на дзвюх работах: працуе па сумяшчальніцтву на другой рабоце (таксама на поўную стаўку) і атрымлівае адзін мільён дзвесце тысяч рублёў. З астатняга прыбытку — летнія «закаткі» (з бацькоўскага агарода), бульба. Два разы на год сям'я атрымлівае сваю долю свежаніны. Як быццам усё. Дык што ў снежні?.. Усе грошы патрачаны на харчаванне, за выключэннем....*

**— Прыблізна сорак тысяч на пральны парашок. Праўда, сабралася бялізна і для пральні,— тлумачыць жанчына. — І яшчэ купіла мужу ў падарунак кашулю. Восемдзесят тысяч... Затое на транспарце і я, і муж ездзім «зайцамі». Толькі на электрычку і на аўтобус да вёскі два разы патраціліся — недзе каля шасцідзесяці тысяч. Лялек, іншых цацак дзіцяці не купляем. Даём дачцэ толькі прыкладна па чатыры тысячы ў дзень на абед у школе. Затое за кастрычнік і лістапад яшчэ за кватэру не плацілі. Прыходзіла квітанцыя. Вінаваты ўжо дзвесці шэсцьдзесят тысяч...**

*Пра тое, ці выпісваюць у гэтай сям'і газеты, ці купляюць кніжкі, ці ходзяць у кіно альбо тэатр, я ўжо не пытаўся. Хаця, магчыма, і на гэта грошы ўсё ж можна было б выкраіць...*

Не паспеўшы як след прааналізаваць бюджэт сваіх знаёмых, пацікавіўся, а як жа, з улікам якіх затрат, складаецца мінімальны спажывецкі бюджэт. Адказаць на пытанні пагадзіліся ў Міністэрстве працы. Размова тут на ўзроўні крыніцы самай кампетэнтнай і прафесіянальнай. Наша суразмоўніца — **Тамара Сяргееўна РАК, начальнік аддзела сацыяльных нарматываў і ўзроўню жыцця**.

— На сённяшні дзень мінімальны спажывецкі бюджэт складае 812.889 рублёў на чалавека ў сям'і з 4 чалавек. Так было вызначана па вераснёўскай статыстыцы, — тлумачыць Тамара Сяргееўна. — Як вядома, сярэдняй сям'ёю лічыцца тая, у састаў якой уваходзяць працаздольныя мужчына (30—59 гадоў), жанчына (30—54), двое дзетак (хлопчык —13 і дзяўчынка — 7 гадоў).

За намі, сярэднестатыстычнымі, хаваюцца самыя розныя людзі. І, вядома ж, у Міністэрстве працы гэта разумеюць не горш, чым усе мы, разам узятыя. Вось таму на любое маё пытанне ў Тамары Сяргееўны Рак ужо падрыхтаваны адказ.

Мінімальны спажывецкі бюджэт пралічваецца па самых розных сацыяльна-дэмаграфічных групах насельніцтва. Асобна вызначаецца бюджэт працаздольнага мужчыны (1.000.674 рублі), працаздольнай жанчыны (993.819 рублёў), мужчыны-пенсіянера (822.478 рублёў), жанчыны-пенсіянеркі (799.638 рублёў), студэнткі (754.017 рублёў), студэнта (754.553 рублі). На розныя ўзроставыя катэгорыі падзелены і дзеці: ва ўзросце да 3-х гадоў — бюджэт павінен складаць для дзяўчынкі — 619.859, для хлопчыка — 617.003 рублі; ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў для дзяўчынкі — 753.562 рублі і для хлопчыка — 754.140 рублёў...

Лічбы на тое і ёсць лічбы, каб нас здзіўляць і ўражваць. Так і ў сітуацыі з мінімальным спажывецкім бюджэтам. Паспрабуем падлічыць, колькі ж трэба зарабляць бацьку і маці, маючы сына 13 гадоў і дачку 7, каб скласці свой МСБ (мінімальны спажывецкі бюджэт). Дык вось: мужчыну, каб выжыць, трэба ўсяго толькі 1.000.674 рублі. Гэта калі ён жыве адзін. А 812.889 рублёў на 1 чалавека ў стандартнай сям'і памножце на чатыры. Атрымліваецца, што бацьку і маці трэба зарабляць 3.251.556 рублёў.

— Сёння сярэдняя заработная плата складае, — уносіць яснасць Тамара Сяргееўна і падштурхоўвае да новых разваг, — 880.403 рублі.

Значыць, працуючы, можна забяспечыць толькі сябе. І толькі.

Дык, можа, тады ў Міністэрстве працы занадта намі апякуюцца і складаюць спажывецкую карзінку занадта ёмістую, з разлікам на добрае харчаванне, адметнае абслугоўванне, на нашы вельмі высокія (а значыць, і вельмі затратныя) культурныя запатрабаванні? Ды не як быццам. Даведаўшыся пра цэны ў дзяржаўным гандлі і на рынку, вызначаюць сярэднія. Пасля ўлічваюць усё, што павінна ўтрымліваць спажывецкая карзінка. А гэта і непасрэдна харчаванне (хлеб, мяса, малако, рыба, агародніна, садавіна, ягады), і вопратка, бялізна, абутак, прадметы санітарыі, лекі, прадметы гаспадарчага прызначэння, плата за жыллё, камунальныя і бытавыя паслугі, культурныя патрэбы.

Дзяржавай выпрацаваны і нарматыў, згодна з якім чалавека можна ўжо адносіць да ліку маламаёмасных. Калі вы здолелі зарабіць толькі 60 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту, то вы і ёсць маламаёмасныя грамадзяне. Не трэба асабліва звяртацца і да статыстыкі, каб зразумець, што ўсе пенсіянеры (калі, безумоўна, крыніца даходаў — толькі пенсія) знаходзяцца за рысай беднасці.

**Такія вось лічбы з нашага жыцця. Горкія, на вялікі жаль, лічбы. Мажліва, з часам нешта зменіцца. Праўда, невядома, у горшы ці ў лепшы бок. Сёння на словах усе руплівяцца аб вырашэнні сацыяльных пытанняў. Самых розных колераў партыі. Самыя незалежныя дэпутаты. Адказнасць жа за ўсё бярэ на сябе дзяржава, спрабуючы часам прымаць і скіраваныя на сацыяльную абарону насельніцтва рашэнні. Што тычыцца мінімальнага спажывецкага бюджэту, то сёлета ўрад прыняў пастанову аб аплаце розніцы за жыллё і камунальныя паслугі для нізкадаходных груп насельніцтва. Крытэрыем у вызначэнні права на даплату з'яўляецца тая акалічнасць, калі плата перавышае 15 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту.**

Яшчэ раней — у 1993 годзе — тады Дзяржкампрацы прыняў пастанову (у развіццё рашэння ўрада аб чарговых мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва) наконт арганізацыі ўліку і выяўлення маламаёмных грамадзян, аказання ім дапамогі. Выяўляць жа такіх асоб рэкамендавана шляхам заяў. Пасля — для кантролю — грамадзянамі павінны быць прадастаўлены дэкларацыі аб іх даходах.

Шляхі, як бачым, ёсць. Можна — згодна з існуючай пастановай — дапамагчы ледзь не ўсім маламаёмным, усім, хто апынуўся за рысай беднасці. Была б толькі на тое іх ахвота. І яшчэ... І яшчэ — былі б сродкі. Шукаць іх мясцовай уладзе рэкамендавана ў рэспубліканскім бюджэце. Маламаёмным (а гэта, лічы, ледзь не палове насельніцтва) застаецца хіба што параіць, каб звярталіся. Так, звяртайцеся ў выканкомы. А раптам пашчасціць — знойдуцца грошы і для вас.

***... Вось толькі што параіць сваёй знаёмай? У выканком з заявай яна не пойдзе. Ды і на фоне астатніх становішча ў яе далёка не самае горшае. У студзені, да таго ж, і яна, і муж атрымаюць па трынаццатай зарплаце. Так што з кватэрным доўгам, несумненна, разбяруцца. А мо і на нейкую рэч застанецца якая капейчына. І ўсё ж параю працаваць, калі прыслухаецца, з яшчэ большым напружаннем. Мо нават варта і працу пашукаць з большым заробкам. Усё ж спецыяльнасць у жанчыны нармальная, бухгалтарская, да таго ж і з камп'ютэрам яна на «ты». Значыць, трэба спрабаваць, трэба руліцца. А не сядзець на месцы склаўшы рукі.***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



**Мука мелецца — ёсць калядныя аладкі і каўбасы!**

**Фота С. ВАСІЛЬЕВА.**

*● АСАБІСТАЯ ДУМКА*

## ПОГЛЯД З ГЛЫБІНКІ,

### АБО ШТО ХАЦЕЛАСЯ Б УБАЧЫЦЬ НА БЕЛАРУСКІМ ТЭЛЕЭКРАНЕ

Часта, можна нават сказаць пастаянна, слухаю і гляджу перадачы Беларускага радыё і тэлебачання. Не буду даваць агульнай характарыстыкі ім, бо гэта не самамэта, і невялікі я для таго спецыяліст, спынюся толькі на некаторых момантах работы тэле- і радыёжурналістаў, матэрыялы якіх чуў і бачыў.

Возьмем перадачу «Навіны», якая выходзіць штодня ў эфір у 21.00 гадзіну па канале рэспубліканскага тэлевяшчання. Паглядзіш яе, і складваецца ўражанне, што Рэспубліка Беларусь — гэта толькі адзін Мінск: як правіла, усе паведамленні ў асноўным ідуць адсюль. Разумею, што Мінск — сталіца нашай дзяржавы, і тут адбываюцца важныя палітычныя, эканамічныя і іншыя падзеі. Але ж у нас ёсць, скажам, Бешанковічы і Сянно, Міёры і Зэльва, Іванава і Чачэрск... І там жывуць цікавыя, працавітыя людзі. На жаль, гэтага з перадач не бачна.

А працаўнікі сельскай гаспадаркі ўвогуле апынуліся на заднім плане ўвагі БТ. Нельга назваць нейкіх яркіх і запамінальных перадач, якія б адлюстроўвалі і паказвалі жыццё сённяшняй вёскі, яе складаныя праблемы і пераўтварэнні, што тут адбываюцца.

Праўда, перадачы на гэту тэму бываюць. Яны быццам бы розныя па форме і зместу, але ў большасці шэрыя і нудныя.

Калі сёння параўноўваць перадачы Беларускага тэлебачання з Грамадскім расійскім тэлебачаннем ці каналам «Расія», то гэта, не пабаюся сказаць, — неба і зямля. Разумею, наша тэхнічная база больш сціплая, чым у масквічоў. Але і ў нас хацелася б бачыць больш аператарскіх знаходак, цікавых вядучых і актуальных тэм.

**Мікалай ЛОСІК,**
**жыхар г. Капыля.**

*● ТАКІЯ СПРАВЫ*

## НА КАГО БОГ — НА ТАГО І ЦЭНЫ

Нарэшце-такі мы даведаліся, чаму так дрэнна жывём. Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкома Станіслаў Гур'янаў растлумачыў грамадскасці прычыну розных цэн на прадукты харчавання ў абласцях рэспублікі. Самае дарагое мяса на Магілёўшчыне з-за таго, аказваецца, што тут нізкі ўзровень газіфікацыі і халаднейшае надвор'е. Усё гэта патрабуе большых, чым у іншых рэгіёнах, затрат на вытворчасць, павышае сабекошт, а значыць, і рознічныя цэны.

Спрачацца тут няма з чым. Што так, дык так. Але мяне, як прыватную асобу, цікавіць пытанне: ці будзе зроблена індэксацыя «на мароз» пры выплаце заработнай платы, напрыклад, настаўнікам? Ці павялічацца прапарцыянальна холаду пенсіі?

Зусім не утрырую, бо жыхара Магілёўшчыны, выходзіць, Бог карае тройчы. Па-першае, радыяцыяй. Па-другое, тэмпературай, якая ў параўнанні з Брэстам і Гроднам на 2-3 градусы ніжэй. І па-трэцяе, цэнамі на мясныя прадукты, ад якіх, скажам, мінчанін тут жа адвернецца, але, «абарыгену» дзявацца няма куды, бо ён — не малпа ў спякотнай Афрыцы і, каб арганізм выпрацоўваў цяпло, мае патрэбу ў калярыйнай ежы.

У адрозненне ад разважанняў Станіслава Міхайлавіча, сама сітуацыя, можна сказаць, абсурдная. Памятаю, дэпутаты ВС ранейшага склікання ўзнімалі пытанне аб няроўным становішчы абласцей, прапаноўвалі ўвесці дыферэнцыраваныя падаткі ў дзяржбюджэт. Але, як бачым, на каго Бог — на таго і цэны.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*● ПОГЛЯД*

## ЛЕПШ ВУЧЫЦЦА НА ЧУЖЫХ ПАМЫЛКАХ

**У рамках даследчага праекта Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў «Прынцыпы свабоднай рыначнай эканомікі ў праграмах і дзейнасці асноўных суб'ектаў палітыкі і эканомікі Беларусі», які праводзіцца пры падтрымцы Цэнтра міжнароднага прыватнага прадпрымальніцтва (CIPE), праводзіўся аналіз нарматворчых дакументаў асноўных дзяржаўных суб'ектаў палітыкі. Сярод галоўных напрамкаў такой дзейнасці можна асабліва выдзеліць два — адміністрацыйнае ўмяшанне ў эканоміку і пагроза суверэнітэту Беларусі.**

Гадавы юбілей нарматворчай дзейнасці новай выканаўчай улады на эканамічнай ніве прайшоў вельмі сімптаматычна — быў адменены адзін з нарматыўных актаў, меўшых сумныя эканамічныя вынікі. Маецца на ўвазе прэзідэнцкі ўказ № 114 ад 20.09.94 г., якім быў забаронены продаж выпушчанай прадукцыі прадпрыемствам недзяржаўных формаў уласнасці, што не маюць рознічных гандлёвых прадпрыемстваў. Сёння гэты ўказ ужо адменены, але той урон, які ён нанёс як спажыўцам, так і эканоміцы ў цэлым, ужо не вярнуць. Напрыклад, на Мінскім заводзе халадзільнікаў, адным з нямногіх заводаў, загружаных шэсць дзён на тыдзень, праз тры месяцы пасля выхаду гэтага ўказа пуставаўшы да гэтага чатырохпавярховы склад быў цалкам запоўнены прадукцыяй. З-за адсутнасці месца для далейшага складзіравання гатовыя халадзільнікі пачалі выстаўляць у свабодных праходах цэхаў і аддзелаў. Адміністрацыя была вымушана адцягнуць ад сваіх непасрэдных абавязкаў 200—300 чалавек з ліку інжынерна-тэхнічнага персаналу, ператварыўшы іх у камівояжораў. За час, неабходны для пошуку спажыўцоў, заключэння дагавораў, нарэшце, збыту накопленай прадукцыі, прадпрыемствам былі «праедзены» абаротныя фонды. Для іх папаўнення давялося браць крэдыты ў банку, што разам з павелічэннем накладных расходаў, звязаных са збытам, прывяло да павелічэння кошту халадзільнікаў на 30 працэнтаў. Такім чынам указ, галоўнай мэтай якога было змяншэнне «накрутак» на кошт тавараў, прывёў да адваротных вынікаў.

Гэты адменены ўказ сыграў ролю своеасаблівага пыласоса, дзякуючы дзеянням якога былі як спустошаны абаротныя фонды прадпрыемстваў, так і аслаблены іх фінансавыя пазіцыі ў будучым. Не ўсім удалося выйсці з патавай сітуацыі такім жа чынам, як у прыведзеным вышэй прыкладзе.

Не менш цікавы для аналізу і праект Банкаўскага кодэкса, які стаў, як вядома, адной з прычын адстаўкі з пасады старшыні праўлення Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча.

Распрацоўшчыкі праекта вызначылі цэнтральным органам кіравання банкамі і нябанкаўскімі фінансавымі арганізацыямі Банкаўскі камітэт, кампетэнцыя якога вызначаецца Кодэксам і Палажэннем аб Банкаўскім камітэце, які зацвярджаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Гэта значыць, дэ-факта кантроль над усёй банкаўскай сістэмай краіны пераходзіць у рукі выканаўчай улады.

Фарміраванне камітэта шляхам назначэння тэрмінам на 7 гадоў роўнай колькасці пастаянных членаў (па 3 прадстаўнікі) Прэзідэнтам і Нацыянальным банкам, а таксама аднаго прадстаўніка ад статутных банкаўскіх аб'яднанняў толькі стварае бачнасць незалежнасці банкаўскай сістэмы. Дадзены орган, па сутнасці ні за што не адказваючы і ні перад кім не робячы справаздачы, нагадвае Палітбюро ЦК КПСС, толькі ў фінансавай сферы. Усе функцыі па рэгістрацыі банкаў, ліцэнзаванню банкаўскай дзейнасці і ўстанаўленню эканамічных нарматываў для банкаў пераходзяць з кампетэнцыі Нацбанка ў ствараемы орган.

Пэўны кантэкст нясе ў сабе арт. 61 праекта Банкаўскага кодэкса, які прадугледжвае ліквідацыю Нацыянальнага банка «на падставе прыняцця адпаведнага заканадаўчага акта Рэспублікі Беларусь». У метрыцы аб нараджэнні дзіцяці не робяць запіс аб смерці ў выніку «пагаршэння здароўя». Упершыню ў праектах дакументаў, што рэгламентуюць дзейнасць інстытутаў, якія вызначаюць статус дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь, з'явіліся канкрэтныя перадумовы страты незалежнасці. Такое становішча раўназначна запісу ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь аб «ліквідацыі дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь на падставе прыняцця адпаведнага заканадаўчага акта». Нацыяльны банк з'яўляецца, нароўні з іншымі дзяржаўнымі інстытутамі, неабходным атрыбутам незалежнасці любой дзяржавы.

Наяўнасць такога артыкула ў аналізуемым дакуменце ставіць крыж на ўсіх спробах уладных структур прыцягнуць іншаземныя інвестыцыі ў Беларусь. Калі ж можна ліквідаваць Нацыянальны банк звычайным прыняццем заканадаўчага акта, дык гэтак жа проста можна ліквідаваць або забараніць дзейнасць любых суб'ектаў палітыкі і эканомікі Беларусі.

**Аляксандр ГАЛЬКЕВІЧ,**
**навуковы супрацоўнік НІСЭПД.**

# КРАІНА ЎШАНОЎВАЕ ТВОРЦАЎ

**Сёмага студзеня, у светлы дзень Хрыстовага Ражаства, у Дзяржаўным акадэмічным оперным тэатры адбыліся «Калядныя сустрэчы» — урачыстая цырымонія ўручэння прэмій года людзям творчай працы, чыя духоўная дзейнасць у мінулым годзе стала адметнай з'явай для культуры Беларусі. У другі раз на такія сустрэчы нас запрасілі мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Міністэрства культуры краіны і кампанія «Хелен-Валеры».**

Сімвалічным падалося тое, што ўшаноўванне творцаў праходзіла ў дзень асаблівага ўсплёску нашай духоўнасці. Творчасць, культура, ступень іх развіцця, стаўленне да іх — адзнака духоўнай сталасці нацыі, яе трываласці, адзначыў, адкрываючы ўрачыстасць, мітрапаліт Філарэт. І першай намінацыяй пры ўручэнні прэмій стала «Духоўнае адраджэнне» — адна з самых прадстаўнічых па колькасці ўдзельнікаў творчага конкурсу.

Але спачатку крыху пра тое, што папярэднічала заключнаму этапу работы, якім сталася каляднае свята. Як расказаў старшыня арганізацыйнага камітэта конкурсу, народны артыст СССР Мікалай Яроменка, з прапановамі аб вылучэннях на прэміі года па сямі намінацыях працавалі найперш эксперты — найбольш кампетэнтныя і аўтарытэтныя ў адпаведных галінах асобы. У выніку абмеркаванняў, дыскусій у кожнай намінацыі засталіся па тры кандыдатуры. Потым было тайнае галасаванне членаў журы (дарэчы, «Звязда» таксама ўскосна прыняла ў ім удзел — у асобе свайго галоўнага рэдактара).

Такім чынам, імёнамі года сталі:

Намінацыя **«Духоўнае адраджэнне»** — аўтарскі калектыў на чале з Ліліянай Анцуг — за падрыхтоўку серыі кніг «Нашы духоўныя каштоўнасці».

У гэтай жа намінацыі ўручаны спецыяльны прыз старшыні Рэспубліканскага дзіцячага фонду «Дзеці Чарнобыля» Уладзіміру Ліпскаму.

Намінацыя **«Выяўленчае мастацтва»** — мастак Уладзімір Савіч.

Намінацыя **«Тэатральнае мастацтва і кіно»** — Барыс Герлаван.

Намінацыя **«Эстрада»** — народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка.

Намінацыя **«Спорт»** — чэмпіён свету па гімнастыцы Віталь Шчэрба.

Намінацыя **«Музыка»** — народны артыст СССР, галоўны балетмайстар ДАВТ Валянцін Елізар'еў.

З'явілася і новая намінацыя. Як паведаміў Мікалай Яроменка, у арганізацыйны камітэт конкурсу звярнуліся многія грамадскія арганізацыі і папрасілі вызначыць **палітыка года.** Ім стаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка — за ініцыятыўную дзейнасць пад дэвізам «Мір, стабільнасць у імя дзяцей Рэспублікі Беларусь».

Аляксандр Лукашэнка, як і ўсе намінанты, падзякаваў за такое рашэнне, адзначыўшы, што галоўная ўзнагарода для яго — павага людзей, прычым выразнікаў самых розных поглядаў. Яму прыемна, сказаў Прэзідэнт, што ў імкненні падтрымаць творчых людзей аб'ядналіся многія дзелавыя людзі, дзяржаўныя службы. Пад авацыі было аб'яўлена, што Дзяржаўны акадэмічны оперны тэатр робіцца цяпер «прэзідэнцкім», стане «першай сцэнай нашай дзяржавы». А творчым саюзам Прэзідэнт паабяцаў 150 кватэр.

Прэміі года (няхай і не надта вялікія па сваёй матэрыяльнай вартасці) — вядома ж, падзея. Найперш для тых, хто аддае вынікі сваёй духоўнай — самай тонкай, самай патаемнай — работы на ацэнку грамадству. І таму так важна, каб прынароднае прызнанне стала новым штуршком да творчасці, каб не пакінула горычы ад налёту суб'ектывізму (ён, канешне ж, непазбежны — усё вырашаюць людзі), ад нават самай найменшай спробы падмяніць творчыя ацэнкі групавымі інтарэсамі, асабістымі прыхільнасцямі. Хочацца, каб «Калядныя сустрэчы» — а іх арганізатары (і спонсары) абяцаюць зрабіць традыцыйнымі — удасканальваліся, рабіліся больш важкімі па зараду духоўнасці, які ідзе, вядома ж, і ад справядлівых ацэнак, ад прадуманасці ўсіх нюансаў творчага конкурсу. Аналіз першых спроб — за спецыялістамі, але хацелася б больш публічнасці ў абмеркаванні вылучаных работ (нават на прайшоўшай вечарыне аб намінантах гаварылася неяк скорагаворкай, больш праз прозвішчы, менш — праз набыткі). Спрасаваны сцэнарый (куды спяшаліся?) пакідаў мізэр часу для слова саміх намінантаў, для тэатралізаванай імправізацыі — творцы ж сабраліся, прычым у тэатры! Адсюль нараджаецца настрой свята, агульнага саўдзелу і агульнай радасці, а не проста мерапрыемства з высокім прадстаўніцтвам. Многіх здзівіла і адсутнасць намінацый у галіне літаратуры. Затое ў музыцы іх дзве («Музыка», «Эстрада»). А вось тэатр і кіно чамусьці сціпла апынуліся разам.

Але ўсё гэта — зусім не шпількі ў адрас арганізатараў і спонсараў свята, а жаданне бачыць важную і патрэбную падзею ў жыцці людзей творчасці, усіх нас яшчэ больш яркай, цёплай, удзячнай, патрэбнай для ўзлёту.

У наш час усё матэрыяльна, усё бярэцца не з паветра. За святам у тэатры — праца фірмы «Хелен Валеры», пачынальніка святаў, яе прэзідэнта Алены Скрыпель, а таксама фірмаў «Белсел», «Белавія», «Отіко», «Свой круг», «Семіраміс» і многіх іншых. Няхай пашыраецца іх круг!

Закончылася ўшанаванне намінантаў вялікай шоу-праграмай, што праходзіла ў Палацы моладзі.

**Людміла ВЕРАСНЁВА.**

# Іван Гаўрылавіч ЧЫГРЫНАЎ

Цяжкую страту панесла беларуская літаратура — 5 студзеня 1996 года пасля працяглай хваробы памёр народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, член калегіі Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў.

Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў нарадзіўся 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыўшы ў 1952 годзе Саматэвіцкую сярэднюю школу, паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля заканчэння універсітэта працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва ў выдавецтве Акадэміі навук Беларусі. У 1965—1975 гг. — рэдактар аддзела публіцыстыкі і нарыса ў часопісе «Полымя». З 1975 года ён працуе намеснікам старшыні, а з 1976 па 1986 год — сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1987 годзе Іван Чыгрынаў быў абраны старшынёй праўлення Беларускага фонду культуры, адначасова працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Спадчына». Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1986—1990), узначальваў пастаянную Камісію Вярхоўнага Савета БССР па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах.

Першым празаічным творам Іван Чыгрынаў дэбютаваў у рэспубліканскім друку ў 1958 годзе. Таленавітыя кнігі празаіка адразу звярнулі ўвагу надзённасцю ўзнятых праблем і праўдзівасцю паказу жыцця. Ён аўтар кніг апавяданняў і аповесцей «Птушкі ляцяць на волю» (1965), «Самы шчаслівы чалавек» (1967), «Ішоў на вайну чалавек» (1973), раманаў «Плач перапёлкі» (1972), «Апраўданне крыві» (1977), «Свае і чужыя» (1984), «Вяртанне да віны» (1991). Значны ўклад Івана Чыгрынава ў нацыянальную драматургію. Яго пяру належаць п'есы «Дзівак з Ганчарнай вуліцы» (1986), «Следчая справа Вашчылы» (1988), «Чалавек з мядзведжым тварам» (1988), «Звон — не малітва» (1988), «Толькі мёртвыя не вяртаюцца» (1989), «Ігракі» (1989) і іншыя.



Найвышэйшым дасягненнем у творчасці пісьменніка з'явіліся творы, прысвечаныя тэме вайны. У яго раманах грунтоўна адлюстравана атмасфера ваеннага часу, паказаны вытокі гераізму і мужнасці беларускага народа. Гэтыя творы набылі шырокую папулярнасць у нашага чытача.

Іван Чыгрынаў — адзін з аўтараў сцэнарыя шматсерыйнага фільма «Руіны страляюць...»

Творы Івана Чыгрынава атрымалі вядомасць і далёка за межамі нашай краіны. Яны перакладзены на многія мовы свету.

Адметны майстар мастацкага слова, Іван Чыгрынаў працаваў над сваімі творамі натхнёна, старанна і самааддана. Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён да апошняга часу не выпускаў з рук пісьменніцкае пяро. Выдатны і арыгінальны празаік, мастак са сваёй тэмай, адгукаўся на самыя балючыя, надзённыя пытанні нашага жыцця, быў здольны зазірнуць у самыя патаемныя куточкі чалавечай душы. Ён любіў сваю Бацькаўшчыну, рабіў усё для нацыянальнага Адраджэння Беларусі.

Праца пісьменніка, яго грамадская дзейнасць былі годна ўшанаваны ўрадам. Ён быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, медалямі.

Пайшоў з жыцця таленавіты пісьменнік, добры, зычлівы сябра, чалавек высокай маралі, высакародных памкненняў, якім ганарыцца Радзіма. Светлая памяць аб Іване Чыгрынаве назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Лукашэнка А. Р., Мясніковіч М. У., Чыгір М. М., Шэйман В. У., Цыцянкоў І. І., Русакевіч У. В., Замяталін У. П., Бутэвіч А. І., Стражаў В. І., Сянько У. Л., Ганчарык У. І., Кулічкоў А. М., Ярмошын У. В., Матусевіч М. В., Барадулін Р. І., Брыль І. А., Быкаў В. У., Гілевіч Н. С., Навуменка І. Я., Шамякін І. П., Адамчык В. У., Андраюк С. А., Аўрамчык М. Я., Агееў А. М., Багданава А. Я., Болтач В. У., Бугаёў Зм. Я., Бураўкін Г. М., Васіль Вітка, Вярцінскі А. І., Гарэцкі Р. Г., Гіль М. С., Гніламёдаў У. В., Грахоўскі С. І., Жалязоўскі А. П., Далідовіч Г. В., Дудараў А. А., Законнікаў С. І., Зуёнак В. В., Каваленка В. А., Казько В. А., Максім Лужанін, Кудравец А. П., Ліпскі У. С., Лукша В. А., Макаль П. М., Масарэнка А. Г., Някляеў У. П., Паўлаў У. А., Пашкевіч Н. Е., Пісьмянкоў А. У., Пташнікаў І. М., Сіпакоў І. Д., Супрунчук В. П., Шабалін А. А., Юрэвіч У. М., Яроменка М. М.**

## РАЗВІТАННЕ З ПІСЬМЕННІКАМ

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, развітанне з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Гаўрылавічам Чыгрынавым адбудзецца ў Доме літаратара 9 студзеня з 12 гадзін. Грамадзянская паніхіда пачнецца ў 13.00. Пахаваны Іван Чыгрынаў будзе ў гэты ж дзень у Мінску, на могілках па Маскоўскай шашы.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

**Праўленне Беларускага фонду культуры глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці старшыні праўлення Беларускага фонду культуры, народнага пісьменніка Беларусі Івана Гаўрылавіча ЧЫГРЫНАВА і выказвае шчырае спачуванне сям'і, родным і блізкім нябожчыка.**

# УСЛЕД ЗА ФОНДАМ СОРАСА ДА НАС ЕДЗЕ «MENSA»

**15 студзеня ў Мінск прыбудзе выканаўчы дырэктар Міжнароднага савета дырэктараў арганізацыі «Mensa international» спадар Эдварт Вінсэнт.**

Мэта візіту — пазнаёміць прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі і, адпаведна, жыхароў нашай рэспублікі з дзейнасцю міжнароднага клуба «Mensa». Пры наяўнасці цікавасці з боку беларусаў праз нейкі час у Мінску адбудзецца экзамен — тэст для ўсіх жадаючых высветліць свой каэфіцыент інтэлекту (айкю). Вынікі тэсту падвядзе камісія клуба. Яго членамі змогуць стаць усе, у каго айкю будзе вельмі высокім. Пратэсціравацца можа кожны, хто дасягнуў пятнаццаці гадоў і заплаціў пэўную суму. Валоданне замежнай мовай і асобнымі ведамі не патрэбна, тэст пабудаваны на лічбах і сімвалах.

Стратэгічная мэта візіту спадара Вінсэнта — адкрыццё нацыянальнага аддзялення клуба. Сёння міжнародная арганізацыя, створаная ў 1946 годзе ў Оксфардзе, мае 110 тысяч членаў больш чым у 100 краінах свету. У 24 краінах ёсць нацыянальныя аддзяленні «Mensa». Беларусь — першая рэспубліка былога Саюза, дзе «Mensa» жадае адкрыць свае прадстаўніцтва. Калі гэта стане рэальнасцю, нашы таленавітыя суайчыннікі будуць мець фінансавую падтрымку і магчымасць вучыцца за мяжой.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*Іван КАРЭНДА*

# *Аўтографы на сметніку*

### СКНАРЫ

*У цябе ўсяго да пары,*
*Толькі скнарлівасць адна.*
*Сцеражы: няхай папарам*
*Сто гадоў ляжыць яна!*

### П'ЯНІЦЫ

*Табе і мора па калена,*
*І акіян — ніжэй за пуп.*
*Струхнееш, мокрае палена!*
*Згніеш, нібы ў балоце слуп!*

### ПЛАГІЯТУ

*Дзе слоўца, дзе сказ, дзе радок, дзе абзац —*
*Крадзеш бессаромна і лоўка.*
*Ды ўсё-такі некалі трапіш ты, пац,*
*У творчую мышалоўку.*

### ГУЛЬТАЮ

*Зімой пад коўдрай, летам у цяньку —*
*Занятак звыклы, не пячэ далоні —*
*То на адным, то на другім баку...*
*...Трымае чорт тваю душу ў палоне.*

### ЗЛОДЗЕЮ

*Нясцерпны сверб — паўсюдна красці,*
*І днём, і ноччу хапаць, хапаць...*
*Бог людзям рукі даў, каб класці.*
*А нелюдзям-хапугам — лапы.*

### КАР'ЕРЫСТУ

*Як цыган па драбінах на неба,*
*Ўгору ты лез усё вышай і вышай.*
*Цяпер жа спускацца адтуль табе трэба,*
*Драбінаў няма — мусіш падаць на дышаль.*

### ПРАСТЫТУТЦЫ

*О прыгажуня-сэрцаедка!*
*Загубіш свет, даб'еш дашчэнту.*
*Каханне — дар святы і рэдкі.*
*Не прадавай яго за цэнты.*

### ЗЛЫДНЮ

*Чым горш, тым лепш — дэвіз паганца.*
*Не чалавек, а звер з бярлогі.*
*Танцуеш ты ў шалёным танцы*
*Пакуль... не выпрастаеш ногі.*

### ПАДХАЛІМУ

*Што пра цябе, мярзотніка, казаць?*
*Што пажадаць табе, праныра?*
*Ёсць безліч спрытных спосабаў лізаць,*
*А ты асвоіў толькі тры-чатыры...*

### ПАЛІТЫКУ

*Залез на страху — дык не охай, не ахай,*
*А ціха і годна страху рамантуй,*
*Бо скажа народзе: «Злазь, хлопча, з даху*
*І гонту, няўклюдак, не псуй!»*

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.24 | 16.08 | 7.44 |
| Віцебск – | 8.21 | 15.51 | 7.30 |
| Магілёў – | 8.14 | 15.57 | 7.43 |
| Гомель – | 8.03 | 16.02 | 7.59 |
| Гродна – | 8.38 | 16.24 | 7.46 |
| Брэст – | 8.31 | 16.33 | 8.02 |

### ІМЯНІНЫ

Пр. Сцяфана, Фёдара
К. Юлія, Марцэліны

### МЕСЯЦ

Поўня 5 студзеня

### НАДВОР'Е

Сёння на тэрыторыі рэспублікі чакаецца пераменная воблачнасць, у заходніх раёнах невялікі снег. Тэмпература паветра ў Брэсце — 2—4, Гродне, Мінску — 3—5, Гомелі, Магілёве — 5—7, Віцебску — 6—8 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: 10-га — месцамі снег, 11-га — пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра будзе павышацца.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 9 студзеня

Надвор'е будзе вызначацца праходжаннем антыцыклону, што прывядзе да росту атмасфернага ціску і ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых, схільных да спастычных рэакцый.

У мэтах прафілактыкі гэтым хворым рэкамендуецца адмовіцца ад далёкіх паездак, пазбягаць псіхаэмацыянальных і фізічных нагрузак, рабіць цёплыя гідрапрацэдуры і самамасаж шыйна-плечавога пояса, прымаць заспакаяльныя і сасударасшыральныя лекавыя прэпараты.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# КІРМАШ



**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 1(20)**

*Штодзённа з 9 да 18 гадзін, акрамя суботы і нядзелі, супрацоўнікі «Кірмашу» чакаюць вас, рэкламадаўцы, па адрасу:*
*г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 5-ы паверх, пакой № 530, а таксама па праспекце Ф. Скарыны, 77, 2-гі паверх.*
***Тэлефоны:***
*68-28-71,*
*68-28-77,*
*68-27-79,*
*68-27-83,*
***факс** 68-28-77.*

***ЦЭНЫ:** кошт аднаго радка для прадпрыемстваў — 40 тыс. руб.*
***Для грамадзян — 15 тыс. руб.***

**Фирма «ЛиП» продает**
**ПОКРЫШКИ К АВТОМОБИЛЯМ:**

ЛАЗ 280х508 ... 2.700.000 руб.
М-2141
185/65 R14 ........ 1.150.000 руб.
УАЗ 8,40х15 ..... 1.350.000 руб.
РАФ
185/82 R15 ........ 1.400.000 руб.
Волга 205/70 R14
(зимняя) ............ 940.000 руб.
ГАЗЕЛЬ
6.95х16С ........... 1.325.000 руб.
НИВА 6.95х16
(вездеход) ........ 1.400.000 руб.
ИЖ 2715
6.40х13 .............. 975.000 руб.

**● КАМЕРЫ**
УК-14 ....... 120.000 руб.
УК-13 ........ 95.000 руб.

**ПОКУПАЕМ МАКУЛАТУРУ**

**ТЕЛ./ФАКС: (0172) 266-366.**

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|

**ТРАНСПОРТ**

| | | | |
|---|---|---|---|
| З/ч М-412, ГАЗ-53, 2410, Т-25, Т-40 | | Организация | (0222) 25-00-00. |

**ТУРИЗМ И ОТДЫХ**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Египет (АВИА, Боинг) отель 4-5 звезд | от 505$ (8-15 дней) | Техно-Стар | 39-47-14 |

**СЫРЬЕ**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Покупаем техническое льносемя | | Организация | (01777) 5-48-09 3-81-38 факс 3-85-69 |

***Номера телефонов без указания кода города — минские.***

*Я предпочитаю надежный доход соловьиным песням!*

- **Размещение свободных рублёвых и валютных средств**
- **Консультации по переводу рублей в валюту**
- **Оперативная оплата валютных контрактов**



*Для юридических лиц* **Финансовая группа БЕЛБИЗНЕСИНВЕСТ**

**тел. (0172)39-45-60, 39-56-49 факс (0172)32-49-57**

***Надежность — наша политика!***

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ**
**у камерцыйных банках на 8 студзеня 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11500 | 11700 | 7800 | 8050 | 2.30 | 2.50 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11450 | 11650 | 7800 | 8100 | 2.20 | 2.45 | |
| Белзнешэканомбанк | 11450 | 11610 | 7800 | 8100 | 2.10 | 2.40 | 267-022 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11550 4740 | 11700 4840 | 7900 | 8100 | 2.39 | 2.46 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11450 | 11650 | 7750 | 8050 | 2.10 | 2.48 | 067 |
| Народны банк | 11520 | 11650 | 7900 | 8030 | 2.30 | 2.40 | 238-610 |
| «Алімп» | 11550 | 11650 | 7880 | 8000 | 2.40 | 2.45 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 11550 | 11650 | 7900 | 8100 | 2.35 | 2.45 | 291-646, 067 |
| «ФФФ» | 11450 | 11650 | 7700 | 8050 | 2.20 | 2.42 | |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7948.58 | | 2.47 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4661 | | 3222.71 | | 100 бел.р. 39.90 | | |

* — Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік
** — Аперацыя праводзіцца толькі за безнаяўны разлік
*** — Аперацыя з валютай больш за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах

**Да ведама нашых кліентаў!**
**З 1 студзеня 1996 года змяніўся разліковы рахунак газеты «Звязда». Стары рахунак быў 609868. Новы рахунак 3012210270016. Банк застаецца ранейшым — «Белбізнесбанк» у г. Мінску, код МФО 153001739.**

*КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ*

**Герберт Ньютан КЭСАН**

# АКСІЁМЫ БІЗНЕСУ

**(Працяг. Пачатак у нумары за 27 снежня).**

## ТРЭЦЯЯ АКСІЁМА

**● Цана тавару роўная сабекошту плюс прыбытак**

Нават калі вы займаеце кіруючую пасаду, вы не згубіце дарэмна часу, прысвяціўшы цэлы святочны дзень вывучэнню пытання аб цэнах на падставе наяўных у вас фактычных даных.

Перш за ўсё, што такое цана? З чаго яна складаецца? Ці складаецца яна з двух фактараў або з шасці, дзесяці або дваццаці?

Вашы цэны — ці заснаваны яны на чым-небудзь нязменным? Або вы іх вызначаеце выпадкова, прыблізна? Устанаўліваючы іх, вы робіце як тыран, дэспат або рацыянальна, як сапраўдны дзелавы чалавек?

Ці вырашыце вы важнае пытанне аб цэнах, разлічваючы іх як мага даражэй і кампенсуючы страты на адным тавары надбаўкай цаны на другі? Або вы прытрымліваецеся той нязменнай сістэмы, калі на кожны продаж кладзецца прапарцыянальна вядомая частка прыбытку?

Ваша ацэнка праводзіцца па загадзя складзенай шкале або ў залежнасці ад кліента? Або цана ўстанаўліваецца вамі ў залежнасці ад вашай патрэбы ў грашах?

Ці ясна вы сабе ўяўляеце вашы намеры, вашы планы або вы іх мяняеце з дня ў дзень згодна з абставінамі?

Праўда, цэны заўсёды ўстанаўліваюцца на падставе незлічоных меркаванняў. Сабекошт тавару, стан рынку, канкурэнцыя, велічыня платы за памяшканне і расходы на персанал, сума абкладання і падаткаў, агульнае становішча — вось што трэба браць пад увагу акрамя пытання аб вашым зарабку.

Не трэба думаць, што ўстанаўленне прадажных цэн простая рэч: наадварот, яна вельмі складаная. Многія ўпускаюць з-пад увагі існаванне рыначных цэн, а таксама законаў што іх рэгулююць і патрабуюць да сябе ўвагі.

Да таго бізнес не будзе мець вялікага поспеху, пакуль камерсант энергічна не адшукае ўсяго, што складае сабекошт яго тавару.

Прадаваць тавар ніжэй сабекошту — гэта значыць не весці гандаль, а проста ісці да краху: продаж ніжэй сабекошту мае гэтак жа мала агульнага з бізнесам, як блыха з сабакам.

Калі хвароба — процілегласць здароўю, то крах — процілегласць поспеху. І ў камерцыйнай галіне ўсякая аперацыя, якая не прыносіць даходаў, выпадае са сферы бізнесу.

**Прадажная цана = сабекошт + прыбытак**

Аксіёму гэту нельга ні аспрэчыць, ні змяніць. Тое, аб чым яна гаворыць, ёсць не толькі сцвярджэнне, больш таго, гэта — бясспрэчная ісціна накшталт, напрыклад, матэматычнай ісціны, што «цэлае больш за частку».

— Камерсант, які прадае свае тавары за бесцань, уяўляе сабой сумнае відовішча і не з'яўляецца выключэннем. Часта ён дасягае поспеху — звычайна тады, калі ўзнімае цэны на некаторыя тавары (на якія ніхто не звяртае ўвагі) для таго, каб настолькі ж панізіць цану тых тавараў, якія публіцы падабаюцца.

Калі ж камерсант даходзіць да таго, што прадае па сабекошту або нават ніжэй, — гэта значыць, што ён знаходзіцца ў дрэнным становішчы. Можна загадзя прадказаць, што ён хутка пакіне дзелавую барацьбу і павялічыць сваей персонай натоўп прагарэўшых.

У такіх выпадках пакупнікі, карыстаючыся яго няшчасцем, атрымліваюць, можа быць, некаторую выгаду, але ўвогуле няма нічога больш заганнага і цяжкага для нацыі, чым рост колькасці крахаў.

Год таму назад мне ўдалося пагутарыць з адным няшчасным у лахманах, які вудзіў рыбу на набярэжнай (у Флярыдзе). «О, я не заўсёды быў у такім становішчы, — сказаў ён мне, — калісьці я быў уладальнікам невялікага рачнога парахода для перавозкі пасажыраў з Дэксанвіля ў Палатку. Іншыя параходчыкі бралі 3 долары з чалавека, я ж браў усяго адзін. Вам трэба было бачыць той натоўп, які імкнуўся да мяне на параход. Калі б мой параходзік быў большы, я мог бы добра зарабляць. А так мае расходы былі вельмі вялікія! Мой пастаўшчык вугалю паскардзіўся на мяне ў суд, і я страціў параход».

Вось звычайная, старая як вечнасць гісторыя ўсіх жадаўшых панізіць цэны.

Яны імгненна ствараюць у сваёй галіне штосьці накшталт ачмурэння, а затым тонуць.

Нязначная частка публікі атрымлівае ад іх невялікую выгаду. Але калі глядзець больш шырока, дык і іншым яны прыносяць амаль такую ж шкоду, як і сабе.

Ні адзін прадмет не можа быць здадзены на продаж да таго, як яго сабекошт не будзе ўважліва і дэталёва вывучаны.

Пасля вызначэння сумы ўсіх складаемых сабекошту дзеля асцярожнасці трэба прыбавіць вядомы працэнт на непрадбачаныя расходы і затым ужо справядлівы барыш.

Зрабіць інакш — значыць не толькі прынесці сабе адчувальны ўрон, але і кліентам, і той галіне, у якой вы працуеце, і таму дзелавому свету, да якога вы належыце.

Публіка і паняцця не мае аб кошце рэчаў. Яна з лёгкасцю дорага заплаціць за прадмет малога кошту, і наадварот. Мае значэнне толькі патрэба ў тавары і яго прыгоднасць.

Бывалі выпадкі, што высокая цана садзейнічала продажу. Напрыклад, адзін амерыканскі кандытар доўга аб'яўляў, што яго шакалад самы дарагі ў свеце, і зарабіў багацце.

Поўны сабекошт плюс прыбытак — вось толькі адно вызначэнне, сапраўдная падстава для прадажнай цаны.

Калі вы прыбаўляеце прыбытак да частковага сабекошту, вы робіце памылку.

І калі вы прадаяце ваш тавар па сабекошту без прыбытку, будзьце ўпэўнены, што скора зробіцеся здабычай судовага прыстава.

## ЧАЦВЁРТАЯ АКСІЁМА

**● Мноства тавараў паніжае цэны, і, наадварот, недахват тавараў паднімае іх**

Фактычны сабекошт прадмета мае невялікія адносіны да яго цаны.

На ўсіх рынках існуе блытаніна ў цэнах... Сапраўды, на цэны не столькі ўплывае якасць тавару, колькі тое, як даражыць ім публіка і колькі яна згодна плаціць за яго. Цэны прадметаў мяняюцца ў залежнасці ад іх прывабнасці, рэдкасці, моды, звычак і густу публікі. Ніякая камісія экспертаў ніколі не ў стане вызначыць цану, хоць заўсёды знойдзецца мноства асоб, якія хочуць гэтаму верыць. Мноства тавараў паніжае цэны і, наадварот, недахват тавараў паднімае іх.

Па нейкай сапраўднай або ўяўнай прычыне цэлы натоўп людзей кідаецца купляць зямлю ў дадзенай мясцовасці. З'яўляецца 1000 пакупнікоў на 500 участкаў. Цана падымаецца бесперапынна. Чым больш павялічваецца колькасць пакупнікоў, тым вышэй растуць цэны. Калі першыя змяншаюцца ў сваёй колькасці, цэны пачынаюць падаць. Маламалу колькасць участкаў становіцца роўнай колькасці пакупнікоў. Спекуляцыйная гарачка спыняецца, і пачынаецца падзенне цэн.

Тавар не сам па сабе з'яўляецца каштоўнасцю, а ў залежнасці ад часу і ад месца, дзе ён знаходзіцца.

Каробка суніц каштуе некалькі цэнтаў у чэрвені і 2 долары — на Каляды. Па той жа прычыне кошт карцін і статуй настолькі высокі: існуе толькі па экземпляру кожнай!

У верасні 1914 года, у пачатку вайны, магазіны «Wonamaker» аб'явілі, што ім удалося дастаць у Парыжы толькі некалькі тузінаў дамскіх сукенак. Яны сталі распаўсюджваць чуткі аб тым, што парыжскі дамскі кравец Паўэр пайшоў на вайну, што парыжскі дом Ворта закрыў свае майстэрні і зрабіў ім толькі адну сукенку. Дзеянне такой аб'явы было магічным. На наступны дзень 10.000 дам прыбеглі ў магазін, каб палюбавацца адзінай сукенкай ад Ворта.

Калі вы хочаце, каб ацанілі рэч, беражыцеся яе танна прадаваць і распаўсюджваць яе ў велізарнай колькасці. Кожны ведае, што бясплатныя выстаўкі і бясплатныя банкеты бязлюдныя: нікому не трэба тое, што можа мець кожны.

Гэта сапраўдны факт, факт велізарнага значэння ў бізнесе.

Практычная выснова з вышэйвыкладзенага заключаецца ў тым, што пры запуску якога-небудзь прадмета ў продаж трэба зрабіць так, каб ён хоць бы здаваўся адзінкавым.

Калі вы валодаеце магазінам, зрабіце так, каб ён быў адзіным у сваім родзе.

Не столькі ў тавары мае патрэбу публіка, колькі ў забаве, у цікавасці да чаго-небудзь, і перш за ўсё ў чымсьці такім, аб чым можна было б пагаварыць.

Прапануйце каму-небудзь такое, што магло б выклікаць зайздрасць іншых жанчын, і яна будзе шчаслівa вам заплаціць утрая. Я не прапаведую тут сістэму завышаных цэн, а проста стараюся даказаць абсалютную бескарыснасць вельмі разаральных цэн.

Калі вы прадаяце вельмі танна, гэта значыць, што вы не ўмееце прадаваць. Але наша аксіёма дае іншы пункт погляду, а імена: можна мноства ператварыць у недахват звычайным павелічэннем попыту. Попыт не ёсць што-небудзь пастаяннае: попыт толькі тое, што стварае сам прадавец.

Знаходжанне разнастайнага ўжывання для аднаго і таго ж тавару — новая форма камерцыйнага спрыту. Гэта добра зразумелі вытворцы газу, электрычнасці, цэменту і да т. п.

Звычайныя, простыя прадметы былі пераведзены ў разрад «адзінкавых» простым дабаўленнем вядомай фабрычнай маркі. Акрамя таго, стварэнне новых спосабаў прымянення і новых назваў дазваляе шырока павялічыць попыт, які да таго на працягу шэрага гадоў застаецца заўсёды пастаянным.

**(Працяг будзе).**

**Беларускі акцыянерны камерцыйны банк «Магнатбанк» паведамляе, што сход акцыянераў БелАКБ «Магнатбанк» адбудзецца 10 студзеня ў 10.00 па наступнаму адрасу: г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 11-а, першы паверх. САВЕТ БАНКА.**





# Хто добра бачыў Італію, і асабліва Рым, той ніколі больш не будзе няшчасным

*Гётэ.*



Дзе ні пабудзеш, што ні пабачыш, а тут, у Вечным горадзе, горадзе душ, адчуеш сябе сваім. Няхай ляжаць паміж табой і ім тысячы кіламетраў, стагоддзяў, няхай ты ні слова не разумееш па-італьянску — ты тут свой. Такі нечаканы і дзіўны эфект выклікаюць сівыя калізейскія муры, дасканалыя да ўзнёсласці саборы, вольныя плошчы, славутыя карціны, помнікі... Душа, незалежна ад розуму, знаходзіць тут свае вытокі? Рым дае шчасце адчуць сябе маладым, паверыць у тое, што багацце жыцця непатрачанае і ты можаш шчодра дарыць яго іншым, як Рым дорыць табе. Ты робішся мудрэй, дабрэй, калі здрыганешся перад «Страшным судом» Мікеланджэла ў ватыканскай «Сіксцінскай капэле», успомніўшы ў адно імгненне кожны свой грэх, кожную няпраўду і крыўду людзям.

Такія сустрэчы — на кожным кроку на гэтай зямлі. Асізі, Перуджа, Бастыю... Пасля знаёмства з гэтымі гарадамі-шэдэўрамі, суцэльнымі музеямі, проста гімнамі чалавечаму генію — нечакана замыкаеш моўны рад: шалаш у Разліве... Свет заміраў перад палотнамі Рафаэля і Караваджа, дранцвеў перад дасканалымі лініямі храмаў — мы ж будавалі макеты шалаша... Ці не таму і зараз мы часта едзем за мяжу не па тое?

Людзі едуць у Італію не па танны абутак і яркае рыззё, якімі завалены нашы базары, а па прыгажосць, раўнавагу і гармонію, што ўліваюцца ў душу праз паветра, музыку, краявіды. Па сябе дужых, шчодрых, нязлых. Такіх, якімі адзіна наканавана быць людзям.

**Людміла ВЕРАСНЁВА.**

**На здымках: у Рыме.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**● СНЕГАПАД БУДЗЕ ПРАЦЯГВАЦЦА**

Вашынгтон апынуўся ў нядзелю ў палоне снегападу. Самы моцны за апошнія 10 гадоў снегапад паралізаваў усё жыццё амерыканскай сталіцы. Засыпаныя снегам магістралі сталі непраходнымі для аўтамабільнага транспарту. Не працавалі аўтобусы, зачынены ўсе аэрапорты сталіцы, у сярэдзіне дня спынілася метро. Не адбыліся нават царкоўныя службы, былі зачынены гандлёвыя кропкі. Сіноптыкі прадказваюць, што снегапад будзе працягвацца,

**● АКНО Ў АНТЫСВЕТ**

Навукоўцам Еўрапейскага цэнтра ядзерных даследаванняў, які знаходзіцца непадалёк ад Жэневы, удалося сінтэзаваць 9 атамаў антывадароду. Такім чынам антыматэрыя, існаванне якой было тэарэтычна прадказана больш за 60 гадоў назад, упершыню атрымана эксперыментальна. Антывадарод праіснаваў усяго 40 більённых долей секунды, аднак гэта не змяншае значэння адкрыцця. Цяпер прыадчынена акно ў антысвет.

**● КАНФЛІКТ СТАНОВІЦЦА НЕБЯСПЕЧНЫМ**

Міністр абароны Расіі Павел Грачоў заявіў, што калі НАТО здзейсніць свой план пашырэння на Усход, то Маскве, магчыма, прыйдзецца перагледзець свае абавязацельствы па міжнародных пагадненнях, у тым ліку тыя, што датычацца расійскага ядзернага патэнцыялу. Грачоў падчас свайго выступлення адзначыў, што пашырэнне НАТО можа прымусіць Расію разгледзець пытанне аб стварэнні новай групы войскаў у сувязі з узнікшымі пагрозамі.

**● ПРЫНЯТА АДСТАЎКА ПРЭМ'ЕРА ЯПОНІІ**

Прэм'ер-міністр Японіі Мураяма падаў у адстаўку. Паведамляецца, што адстаўка не з'явілася нечаканасцю. Прэм'ер планаваў перадаць сваю пасаду партнёрам па правячай кааліцыі з ліберальна-дэмакратычнай партыі (сам ён сацыяліст). Аднак рашэнне было прынята раней, чым чакалася. Адна з прычын тое, што ўвесь мінулы год быў для ўрада крайне няўдалым. Пачынаючы з крытыкі дзеянняў пасля жудаснага землятрусу, і заканчваючы апошнім скандалам з выдзяленнем 7 мільярдаў долараў з грошай падаткаплацельшчыкаў шэрагу неплацежаздольных кампаній, якія займаліся нерухомасцю.

**● БЫЛЫ ПАРТНЁР ПАДВЁЎ**

У Злучаных Штатах расследуецца паведамленне аб тым, што Ізраіль мае намер прадаць Кітаю часткі перспектыўнай мадэлі баявога самалёта, у якіх выкарыстаны амерыканскія тэхналогіі. І дзяржаўны дэпартамент, і Пентагон непакояцца аб лёсе вялікай колькасці звышсучаснай ваеннай тэхнікі, якая распрацоўвалася сумесна з ізраільцянамі. Гэта ў першую чаргу электронныя сродкі вядзення баявых дзеянняў, сістэмы кантролю агню і даныя аб поўным працэсе вытворчасці баявых самалётаў цяперашняга пакалення.

**● ВУЛКАН НІКОМУ НЕ ПАГРАЖАЕ**

Вывяржэнне вулкана Карымскі, якое пачалося ў першы дзень новага года, можа зацягнуцца на некалькі месяцаў — так лічаць вулканолагі. Аднак вывяржэнне не пагражае якімі-небудзь бедамі жыхарам паўвострава, а ўяўляе вялікую навуковую цікавасць.

**● БІЛ КЛІНТАН ЗБІРАЕЦЦА Ў БОСНІЮ**

Нягледзячы на бюджэтны крызіс, які абвастраецца ў Вашынгтоне, прэзідэнт ЗША Біл Клінтан плануе ў бліжэйшы час наведаць Боснію. Прэзідэнт хоча адправіцца ў Боснію да свайго выступлення ў кангрэсе з пасланнем аб становішчы краіны, якое, хоць афіцыйна аб гэтым не аб'яўлена, на думку прэс-сакратара Белага дома Майкла Маккеры, адбудзецца 23 студзеня.

**● СУТЫЧКІ Ў ТУРМЕ**

3 чалавекі загінулі і 67, у тым ліку 31 паліцэйскі, атрымалі раненні падчас сутыкнення спецпадраздзяленняў паліцыі з вязнямі ў стамбульскай турме строгага рэжыму. Беспарадкі пачаліся пасля таго, як у чацвер група арыштантаў, з ліку членаў экстрэмісцкай рэвалюцыйнай народнай камуністычнай партыі захапіла ў заложнікі аднаго з наглядальнікаў. Да турмы сцягнуты дадатковыя сілы паліцэйскіх і жандармаў.

**● КАРАЛЕЎСКІ ПАДАРУНАК**

Два дзіцячыя гоначныя аўтамабілі агульным коштам у 40 тысяч долараў атрымалі на Каляды англійскія прынцы Вільям і Генры, сыны Чарльза і Дзіяны. Аднак калі паглыбіцца ў гісторыю, то з пункту гледжання каралёў і імператараў нават гэтыя падарункі выглядаюць даволі сціплымі. Французскі Людовік XIV, калі быў дзіцем, на Каляды 1643 года атрымаў механічных салдацікаў з чыстага серабра. А імператар Напалеон, які лічыў сваім доўгам пераўзысці «караля-сонца», падарыў свайму двухгадоваму сыну 112 залатых салдацікаў.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Папулярнасць плеера з'яўляецца прычынай таго, што сярод моладзі стала імкліва распаўсюджвацца глухата. Шчыльна прыціснутыя навушнікі і вельмі гучная музыка выклікаюць праблемы слыху ва ўсё большай колькасці дзяцей. Калі выкарыстоўваць прыбор на поўную магутнасць, то на вушы прыпадае нагрузка ў 110 дэцыбел. Здаровыя барабанныя перапонкі могуць выносіць гэта без урону максімум паўтары хвіліны. Дарэчы, 110 дэцыбел адпавядаюць шуму ад стартуючага паблізу самалёта.

Парыжскі спецыяліст па вушных захворваннях Жан-Франсуа Бушэ апасаецца, што многія людзі адразу ж пасля плеера пяройдуць да слыхавога апарата. На думку спецыялістаў, у бліжэйшыя гады сярэдні ўзрост людзей з дрэнным слыхам значна знізіцца.

**ЭКСТРА-ПРЭС**

Вёска Шварцэн-зее ў зямлі Рэйланд-Пфальц ляжыць на беразе возера з такой жа назвай. Шварцэн-зее ў перакладзе з нямецкай — Чорнае возера.

Амаль усе жыхары вёскі вельмі добра плаваюць. Ды і на рэўматызм і радыкуліт не скардзяцца — вада вылечвае.

Славутасць вёскі — 14-гадовы Людзвіг Кроне. Гэты падлетак наогул феномен па частцы плавання. Так, калі іншыя хлопцы, нырнуўшы пад ваду, знаходзяцца там не больш як 5—7 хвілін, то Людзвіг здольны прабыць пад вадой больш за 20 хвілін. Сам Кроне не можа растлумачыць гэтую сваю здольнасць.

**«Берлінер цайтунг»**

У Эжве (Рэспубліка Комі) страшную знаходку зрабілі слесары ў пакоі маласямейнага інтэрната. На стук майстроў ніхто не адазваўся. Тады вырашылі ўзламаць дзверы. У пакоі ляжала... мумія яе жыхара. Медыкі ўстанавілі, што смерць наступіла больш года назад, аднак труп па невядомай прычыне не разлажыўся, а ўсох. Магчыма, прычынай фенаменальнай муміфікацыі стала тое, што пры жыцці жыхар пакоя моцна піў і быў літаральна праспіртаваны.

**ЕАН.**

## ПАСОЛЬСТВА ЗША Ў МІНСКУ АДНАВІЛА ПРАДАСТАЎЛЕННЕ ВІЗ ГРАМАДЗЯНАМ

Як паведамілі «Звяздзе» ў інфармацыйнай службе пасольства, дзякуючы зацвярджэнню кангрэсам ЗША артыкула фінансавання, які прадугледжвае захаванне аплаты працы дзяржаўных служачых у ЗША самае малое да 26 студзеня 1996 года, з учарашняга дня пасольства ЗША ў Мінску аднавіла прадастаўленне ўсіх паслуг, якія і раней аказваліся грамадзянам.

Прыём зваротаў за візамі будзе праводзіцца консульскім аддзелам пасольства ў яго звычайныя прыёмныя гадзіны (з 8.30 да 11.30 па аўторках—чацвяргах) і дадаткова ў дзве пятніцы, 12 і 19 студзеня, у той жа час. Адноўлены і іншыя консульскія функцыі. Па свайму звычайнаму графіку працягвае працу інфармацыйны цэнтр Інфармацыйнай службы пасольства ЗША. Для доследнай працы і даведачных паслуг ён адкрыты па ўсіх працоўных днях тыдня з двух да пяці.

**Сяргей ПРОТАС.**

ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 г. № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В.Г., намесніка старшыні суда Фадзеева В.А., суддзяў Кенік К.І., Пастухова М.І., Падгрушы В.В., Серады Н.М., Цішкевіча С.І., Філіпчык Р.І.

з удзелам прадстаўнікоў бакоў:

Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які ўнёс прапанову аб праверцы на прадмет канстытуцыйнасці нарматыўнага акта: Новікава А.Н. — старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю; Юркевіч Г.І. — заг. аддзела юрыдычнага ўпраўлення Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які выдаў Указ: Марыскіна А.У. — начальніка дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь; Свяржа А.І. — намесніка міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 г. № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел: Міранічэнка І.А. — намеснік старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь; Камянкоў В.С. — намеснік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь; Андрэеў І.С. — першы намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана Канстытуцыйным судом 11 верасня 1995 года па прапанове Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Грыба М.І. на падставе часткі першай артыкула 127 Канстытуцыі, артыкулаў 5 і 6 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Па хадайніцтву, заяўленаму ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, рашэннем ад 20 кастрычніка 1995 года вытворчасць па справе была прыпынена да разгляду ў судовым пасяджэнні спраў аб адпаведнасці Канстытуцыі законаў аб Вярхоўным Савеце і аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Праверцы падлягаў Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 г. № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 25, арт. 610).

Пунктам 1 гэтага Указа прыпынена прадастаўленне льгот і пераваг, прадугледжаных нормамі законаў, згодна з пералікам, прыкладзеным да Указа.

Пунктам 2 Указа захаваны льготы, устаноўленыя заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, інвалідам і ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны і асобам, да іх прыраўнаваным, Героям Савецкага Саюза, Героям Сацыялістычнай Працы, асобам, узнагароджаным ордэнамі Славы трох ступеняў, ордэнамі Працоўнай Славы трох ступеняў, інвалідам І і ІІ групы, а таксама іншым катэгорыям грамадзян, якім ільготы ўстаноўлены дагаворамі Рэспублікі Беларусь з дзяржавамі—удзельніцамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

У пункце 3 Указа ўстаноўлена, што дзеці ва ўзросце да 3 гадоў, дзеці-інваліды ва ўзросце да 16 гадоў, асобы, якія пакутуюць ад прамянёвай хваробы ці перанеслі такую хваробу, а таксама асобы, якія пакутуюць ад хвароб, што ўваходзяць у спецыяльны пералік Міністэрства аховы здароўя, забяспечваюцца лякарствамі і медыкаментознымі сродкамі па рэцэптах урачоў бясплатна.

Пунктам 4 Указа прадугледжана, што правам бясплатнага праезду ў гарадскім і прыгарадным транспарце (акрамя таксі) валодаюць дзеці ва ўзросце да 7 гадоў, а таксама асоба, якая суправаджае ў паездках інваліда І групы, а правам на 50-працэнтную скідку з кошту праезду ва ўказаным транспарце — навучэнцы, студэнты і пенсіянеры (мужчыны, якія дасягнулі 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў).

Кабінету Міністраў даручана ўнесці ва ўстаноўленым парадку да 1 студзеня 1996 г. прапановы па прывядзенню дзеючага заканадаўства ў адпаведнасць з названым Указам.

Указам ад 1 верасня 1995 г. № 349 прыпынена прадастаўленне льгот і пераваг, прадугледжаных нормамі васемнаццаці законаў для асобных катэгорый грамадзян. Гэтыя льготы і перавагі датычыліся, у прыватнасці, бясплатнага праезду, атрымання беспрацэнтнай пазыкі на набыццё ці будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў, кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва, аплаты жылой плошчы, прадастаўлення 50-працэнтнай скідкі за карыстанне ацяпленнем, водаправодам, газам і электраэнергіяй ці такой жа скідкі з кошту паліва, бясплатнага атрымання па рэцэптах урачоў лякарстваў, бясплатнага медыцынскага і санаторна-курортнага лячэння, уключаючы пратэзаванне, бясплатнай ці льготнай перадачы ва ўласнасць займаемых жылых памяшканняў у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду, атрымання льготных банкаўскіх крэдытаў на індывідуальнае і кааператыўнае жыллёвае будаўніцтва.

Указам ад 31 кастрычніка 1995 г. № 446 «Аб некаторых сацыяльных гарантыях ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і пракурорскіх работнікаў» пункты 5, 11 і 12 дадатку да правяраемага Указа прызнаны часткова страціўшымі сілу.

У прапанове Старшыні Вярхоўнага Савета Грыба М.І. аб праверцы адпаведнасці Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 г. № 349 Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь адзначаецца, што гэты Указ не адпавядае Канстытуцыі і законам, паколькі, прыняўшы рашэнне аб прыпыненні прадастаўлення некаторых ільгот, прадугледжаных законамі, а таксама аб захаванні іх за асобнымі катэгорыямі грамадзян, Прэзідэнт выйшаў за межы сваіх паўнамоцтваў і парушыў артыкулы 6, 7, 79, 83, 99 і 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Заслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, даследаваўшы пісьмовыя доказы, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі, законаў, міжнародна-прававых актаў, суд прыйшоў да высновы, што асобныя палажэнні Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 г. № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян» не адпавядаюць Канстытуцыі і законам зыходзячы з наступнага.

Згодна з артыкулам 6 Канстытуцыі дзяржава грунтуецца на прынцыпе раздзялення ўладаў — заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго.

У адпаведнасці з артыкулам 79 Канстытуцыі Вярхоўны Савет з'яўляецца вышэйшым прадстаўнічым пастаянна дзеючым і адзіным заканадаўчым органам дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь.

Часткай другой артыкула 1 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» устаноўлена, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь валодае верхавенствам і паўнатой заканадаўчай улады і ажыццяўляе яе ад імя народа ў формах і межах, вызначаемых Канстытуцыяй.

Прынянце законаў, ажыццяўленне кантролю за іх выкананнем, тлумачэнне Канстытуцыі і законаў, як гэта прадугледжана артыкулам 83 Канстытуцыі, уваходзіць у кампетэнцыю толькі Вярхоўнага Савета.

Згодна з часткай другой артыкула 12 Закона аб Вярхоўным Савеце любы закон Рэспублікі Беларусь не можа быць зменены ці адменены інакш як шляхам прыняцця новага закона ці ўнясення змяненняў і дапаўненняў у дзеючы.

Канстытуцыйнасць прыведзеных нормаў артыкулаў 1 і 12 Закона аб Вярхоўным Савеце пацверджана Заключэннем Канстытуцыйнага суда ад 14 снежня 1995 года.

Згодна з артыкулам 101 Канстытуцыі Прэзідэнт выдае ў межах сваіх паўнамоцтваў указы і распараджэнні, арганізуе і кантралюе іх выкананне. Гэтае канстытуцыйнае палажэнне канкрэтызавана ў Законе «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь», у адпаведнасці з якім (артыкул 30) указы і распараджэнні Прэзідэнта не павінны супярэчыць Канстытуцыі, законам і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, пастановам Вярхоўнага Савета, не могуць іх дапаўняць ці змяняць. У выпадку адсутнасці нормы закона, неабходнай для ажыццяўлення выканаўчай улады ў якой-небудзь сферы адносінаў, Прэзідэнт выкарыстоўвае права заканадаўчай ініцыятывы.

Адпаведнасць указаных нормаў Закона аб Прэзідэнце Канстытуцыі пацверджана Заключэннем Канстытуцыйнага суда ад 21 снежня 1995 года.

Канстытуцыйны суд лічыць, што ні Канстытуцыя, ні законы Рэспублікі Беларусь не прадаставілі Прэзідэнту права прыпыняць дзеянне законаў, ці яго змяняць. Прыпыненне выканання закона, яго асобных нормаў ёсць не што іншае, як прыпыненне дзеяння закона. Прыпыніўшы прадастаўленне льгот і пераваг, прадугледжаных законамі, правяраемы Указ фактычна прыпыніў дзеянне гэтых законаў у часе і па кругу асоб. Захаваўшы прыпыненыя заканадаўчымі актамі льготы толькі для часткі грамадзян, Указ па сутнасці справы змяніў дзеянне гэтых актаў. Прыняўшы такі Указ, Прэзідэнт тым самым узяў на сябе функцыі органа заканадаўчай улады, чым перавысіў свае паўнамоцтвы.

Суд не можа пагадзіцца са сцвярджэннем прадстаўнікоў Прэзідэнта аб тым, што, прымаючы правяраемы Указ, Прэзідэнт дзейнічаў у рамках паўнамоцтваў, прадастаўленых яму пунктам 1 артыкула 100 Канстытуцыі. Меры па абароне суверэнітэту, нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, забеспячэнню палітычнай і эканамічнай стабільнасці, захаванню правоў і свабод грамадзян Прэзідэнт павінен прымаць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй законаў, як гэтага патрабуе артыкул 7 Канстытуцыі.

Не аспрэчваючы довады прадстаўнікоў Прэзідэнта аб неабходнасці перагляду існуючай сістэмы льгот і пераваг для асобных катэгорый грамадзян, суд адзначае неканстытуцыйнасць выбранай Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь формы вырашэння гэтага пытання. У адносінах да льгот і пераваг, прадугледжаных законамі, Прэзідэнт мог выкарыстаць права заканадаўчай ініцыятывы і на падставе артыкулаў 22 і 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» унесці адпаведныя прапановы ў Вярхоўны Савет.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128 і 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 36, 38, 40 і 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

**вырашыў:**

1. Прызнаць не адпаведнымі Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункт 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 года № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян», а таксама пункты 2, 3 і 4 гэтага Указа ў частцы скарачэння льгот і пераваг, прадугледжаных для грамадзян законамі, і лічыць гэтыя нормы Указа не маючымі юрыдычнай сілы з 1 верасня 1995 года.

2. Прапанаваць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іншым дзяржаўным органам прывесці нарматыўныя акты, прынятыя на аснове і ў выкананне Указа ад 1 верасня 1995 г. № 349, у адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

3. Апублікаваць гэтае Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў тых выданнях, дзе быў апублікаваны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 г. № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян».

4. Гэтае Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь**
**В. Г. ЦІХІНЯ**

*26 снежня 1995 г., г. Мінск № 3-29/95*

ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 «Аб аплаце працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В. Г., намесніка старшыні суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І.

з удзелам:

экспертаў: Уржынскага К. П. — загадчыка кафедры працоўнага і грамадзянскага права Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання, доктара юрыдычных навук, прафесара; Лявонавай Г. М. — загадчыцы аддзела заканадаўства аб сацыяльным развіцці Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 «Аб аплаце працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел:

Міранічэнка І. А. — намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

Камянкоў В. С. — намеснік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь;

Сашчэка І. Ф. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь;

Сукала В. А. — міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана 29 жніўня 1995 года па меркаванню суда на падставе часткі другой артыкула 127 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкула 5 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Пунктам 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 устаноўлена, што службовыя аклады Старшыні Вярхоўнага Савета і яго намеснікаў, членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшынь камісій Вярхоўнага Савета і іх намеснікаў, сакратароў камісій Вярхоўнага Савета, начальніка Сакратарыята Вярхоўнага Савета, старшынь камісій пры Вярхоўным Савеце, дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесіянальнай аснове, старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, старшыні праўлення Нацыянальнага банка, старшыні Кантрольнай палаты вызначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у кратным памеры тарыфнай стаўкі першага разраду згодна з дадаткам 1. Гэтым жа пунктам прадпісваецца не прымяняць надбаўкі да службовых акладаў за класныя чыны, воінскія і спецыяльныя званні, выслугу гадоў для ўказаных асоб, устанавіўшы надбаўкі да іх службовых акладаў у памеры 40 працэнтаў.

Згодна з пунктам 2 Указа службовыя аклады старшыні Вярхоўнага суда, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда, Генеральнага пракурора, старшыні, намесніка старшыні і суддзяў Канстытуцыйнага суда, міністра абароны, міністра ўнутраных спраў, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі, начальніка Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў вызначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у кратным памеры тарыфнай стаўкі першага разраду згодна з дадаткам 2. Надбаўкі да службовых акладаў названых асоб за класныя чыны, воінскія і спецыяльныя званні, выслугу гадоў не могуць перавышаць у сукупнасці 40 працэнтаў акладу.

Указам даручана Кабінету Міністраў «забяспечыць перагляд памераў акладаў іншых службовых асоб адпаведных дзяржаўных органаў».

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 жніўня 1995 г. № 301 у дадатку 2 да Указа ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 унесена змяненне, згодна з якім кратны памер тарыфнай стаўкі першага разраду для разліку акладаў старшыні Канстытуцыйнага суда, старшыні Вярхоўнага суда, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда, Генеральнага пракурора павялічаны.

Заслухаўшы экспертаў, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі, законаў і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што асобныя палажэнні Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 не адпавядаюць Канстытуцыі і законам зыходзячы з наступнага.

Артыкул 6 Канстытуцыі замацоўвае прынцып падзелу ўладаў, згодна з якім заканадаўчая, выканаўчая і судовая ўлады ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя.

Артыкулам 7 Канстытуцыі прадугледжана, што дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы звязаны правам, дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй законаў.

У адпаведнасці з артыкулам 110 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» заработная плата дэпутату Вярхоўнага Савета ўстанаўліваецца ў памерах, вызначаемых Прэзідыумам Вярхоўнага Савета, у залежнасці ад пасады.

Згодна з артыкулам 116 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» Старшыня Вярхоўнага Савета мае права на заработную плату ў памеры 95 працэнтаў ад заработнай платы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Артыкулам 76 Закона «Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь» службовыя аклады старшыні Вярхоўнага суда, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда і іх намеснікаў устаноўлены адпаведна ў памеры службовага акладу Старшыні Вярхоўнага Савета і яго намеснікаў.

Згодна з артыкулам 25 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» службовыя аклады старшыні Канстытуцыйнага суда, яго намесніка і суддзяў устанаўліваюцца на ўзроўні службовых акладаў адпаведна Старшыні Вярхоўнага Савета, першага намесніка і намеснікаў Старшыні Вярхоўнага Савета.

У адпаведнасці з артыкулам 26 Закона «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь» прэм'ер-міністр мае права на заработную плату ў памеры 90 працэнтаў ад заработнай платы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

( Заканчэнне на 9-й стар.)

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.).**

Згодна з артыкулам 43 Закона «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь» грашовае забеспячэнне пракурорскіх работнікаў складаецца са службовых акладаў, даплат за класныя чыны (воінскія званні) і выслугу гадоў. Памеры службовых акладаў, даплат за класныя чыны (воінскія званні) і выслугу гадоў вызначаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет у адпаведнасці з артыкулам 12 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» прымае і змяняе Канстытуцыю, законы, ажыццяўляе кантроль за іх выкананнем. Любы закон Рэспублікі Беларусь не можа быць зменены або адменены інакш як шляхам прыняцця новага закона або ўнясення змяненняў і дапаўненняў у дзеючы.

Артыкулам 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» устаноўлена, што Прэзідэнт выдае ў межах сваіх паўнамоцтваў на аснове і ў мэтах выканання Канстытуцыі, законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета ўказы і распараджэнні, кантралюе іх выкананне. Указы і распараджэнні Прэзідэнта не павінны супярэчыць Канстытуцыі, законам і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, пастановам Вярхоўнага Савета, не могуць іх дапаўняць або змяняць.

Згодна з артыкулам 146 Канстытуцыі законы і іншыя акты дзяржаўных органаў выдаюцца на аснове і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй. У выпадку разыходжання закона з Канстытуцыяй дзейнічае Канстытуцыя, а ў выпадку разыходжання іншага нарматыўнага акта з законам дзейнічае закон.

З улікам выкладзенага суд прыходзіць да высновы, што пункты 1 і 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 «Аб аплаце працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў» у частцы ўстанаўлення памераў аплаты працы ўказаных у ім службовых асоб, за выключэннем міністра абароны, міністра ўнутраных спраў, старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі, начальніка Галоўнага ўпраўлення пагранічных войскаў, прыняты Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь з перавышэннем яго паўнамоцтваў і не стасуецца з палажэннямі Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь.

Акрамя таго, суд адзначае, што гэты Указ выдадзены з грыфам «Для службовага карыстання», не апублікаваны і не даведзены да ўсеагульнага ведама іншым прадугледжаным законам спосабам, што супярэчыць часткі трэцяй артыкула 7 Канстытуцыі і не стасуецца з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 снежня 1994 года № 252 «Аб парадку апублікавання і ўступлення ў сілу ўказаў і распараджэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Суд звяртае ўвагу на некарэктнасць фармулёўкі пункта 3 Указа ад 13 ліпеня 1995 г. № 271, паколькі ў ім прама не названы дзяржаўныя органы, у адносінах да службовых асоб якіх Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь павінен забяспечыць перагляд службовых акладаў. Гэта прывяло да таго, што Міністэрствам працы па даручэнню Кабінета Міністраў вызначаны ўмовы аплаты працы, якія адрозніваюцца ад прадугледжаных законамі, у прыватнасці Законам «Аб судовым ладзе і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь».

Суд адзначае, што згодна з артыкулам 89 Канстытуцыі Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь утвараецца для арганізацыі работы Вярхоўнага Савета. Разам з тым, як устаноўлена ў судовым пасяджэнні, Прэзідыум Вярхоўнага Савета і пасля ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прымаў рашэнні аб устанаўленні заработнай платы службовым асобам Кантрольнай палаты, пракуратуры, Нацыянальнага банка, Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

З улікам Заключэння Канстытуцыйнага суда ад 14 снежня 1995 года суд звяртае ўвагу Вярхоўнага Савета на неабходнасць прывядзення ў адпаведнасць з Канстытуцыяй заканадаўчых актаў, якія даюць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета права прымаць рашэнні па пытаннях аплаты працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў.

Суд адзначае, што Вярхоўным Саветам да гэтага часу не прыняты закон аб аплаце працы ў вышэйшых органах дзяржаўнай улады, як гэта прадугледжана часткай другой артыкула 83 Кодэкса законаў аб працы.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

**в ы р а ш ы ў:**

1. Прызнаць не адпаведнымі Канстытуцыі і законам пункты 1 і 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 «Аб аплаце працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў» у частцы ўстанаўлення памераў аплаты працы Старшыні Вярхоўнага Савета і яго намеснікаў, членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшынь камісій Вярхоўнага Савета і іх намеснікаў, сакратароў камісій Вярхоўнага Савета, начальніка Сакратарыята Вярхоўнага Савета, старшынь камісій пры Вярхоўным Савеце, дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія ажыццяўляюць паўнамоцтвы на прафесіянальнай аснове, старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, старшыні Праўлення Нацыянальнага банка, старшыні Кантрольнай палаты, старшыні Вярхоўнага суда, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда, Генеральнага пракурора, старшыні, намесніка старшыні і суддзяў Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь.

Лічыць гэтыя нормы не маючымі юрыдычнай сілы з моманту выдання Указа.

2. Прапанаваць Прэзідэнту, Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь і іншым дзяржаўным органам прывесці нарматыўныя акты, выдадзеныя на аснове і ў мэтах выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 ліпеня 1995 г. № 271 «Аб аплаце працы службовых асоб некаторых дзяржаўных органаў», у адпаведнасць з гэтым Заключэннем.

3. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь разгледзець ва ўстаноўленым парадку пытанні аплаты працы ў вышэйшых органах дзяржаўнай улады, а таксама прывесці заканадаўчыя акты, якія рэгулююць гэтыя пытанні, у адпаведнасць з Канстытуцыяй.

4. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», «Народнай газеце» і «Звяздзе».

5. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ**

*28 снежня 1995 г., г. Мінск. № 3-30/95*

# ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ ДА ПРАВАВОЙ ДЗЯРЖАВЫ

## Праблемы ажыццяўлення канстытуцыйнага кантролю ў Беларусі

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая 15 сакавіка 1994 года, з'яўляецца фундаментам прававой сістэмы нашай дзяржавы. Усе законы і іншыя нарматыўныя акты павінны ёй адпавядаць. Канстытуцыя — гэта свайго роду «закон законаў».

Канстытуцыя 1994 года абвясціла высакародную мэту — пабудову дэмакратычнай прававой дзяржавы. Упершыню ў канстытуцыйнай гісторыі Беларусі гэта мэта замацавана на вышэйшым заканадаўчым узроўні. Сёння, вобразна кажучы, як немаўля, мы робім першыя крокі па фарміраванню такой дзяржавы. Неабходна прызнаць, што шлях да прававой дзяржавы ў нас не ўсыпаны ружамі, гэта цярністы шлях...

Прыняўшы Канстытуцыю, мы ўзялі на сябе абавязацельства — будаваць грамадства, у якім перамагае не права сілы, а сіла права. Цяпер ствараюцца неабходныя перадумовы для таго, каб Канстытуцыя з дэкаратыўнага акта ператварылася ў непасрэдна дзеючае права. Важную ролю ў гэтым закліканы адыграць Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, створаны ў красавіку 1994 года.

### КАНСТЫТУЦЫЙНЫ КАНТРОЛЬ У БЕЛАРУСІ: АД ІДЭІ ДА ПРАКТЫКІ

Да прыняцця Канстытуцыі 1994 года ў Беларусі існавала некалькі магчымых мадэляў арганізацыі канстытуцыйнага кантролю. У прыватнасці, прапаноўвалася надзяліць функцыяй канстытуцыйнага кантролю Вярхоўны суд, як гэта прынята, напрыклад, у ЗША і іншых краінах англа-саксонскай сістэмы права, пабудаванай у асноўным на судовым прэцэдэнце. У якасці другой мадэлі прапаноўвалася стварэнне спецыяльнага органа канстытуцыйнага кантролю. Гэта мадэль характэрна для большасці еўрапейскіх краін так званага кантынентальнага права. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь XII склікання, стварыўшы Канстытуцыйны суд, спыніў тым самым выбар на другой (еўрапейскай) мадэлі.

Не толькі тэарэтычную, але і практычную цікавасць уяўляе пытанне аб тым, якое месца Канстытуцыйны суд займае ў дзеючай прававой сістэме?

Важнейшае прызначэнне гэтага канстытуцыйнага органа — гэта абарона Канстытуцыі, абарона канстытуцыйнага ладу рэспублікі. З'яўляючыся гарантам Канстытуцыі, суд садзейнічае забеспячэнню канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь. Ён закліканы ажыццяўляць кантроль за канстытуцыйнасцю ўжо прынятых законаў і іншых нарматыўных актаў у дзяржаве, павінен ліквідаваць з дзеючага права неканстытуцыйныя акты. Гэта «суд над уладай», калі яна выходзіць за межы Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю законаў.

Разам з тым Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь не разглядае **дзеянні** службовых асоб на прадмет іх адпаведнасці Канстытуцыі, не вырашае спрэчкі аб паўнамоцтвах паміж органамі дзяржавы, не ажыццяўляе прэвентыўны кантроль за нарматыўнымі актамі да іх уступлення ў сілу і г. д.

У юрыдычнай літаратуры прававы статус Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь вызначаецца па-рознаму. На думку некаторых вучоных-юрыстаў, Канстытуцыйны суд з'яўляецца органам правасуддзя, уяўляе сабой трэцюю (судовую) галіну ўлады. Шэраг вучоных-юрыстаў прапануюць выдзеліць Канстытуцыйны суд (адначасова з Пракуратурай і Кантрольнай палатай) у асобную галіну дзяржаўнай улады — кантрольна-наглядную ўладу. На наш погляд, сістэмны аналіз нормаў, якія рэгламентуюць дзейнасць Канстытуцыйнага суда, дае магчымасць зрабіць выснову аб тым, што ён мае **змешаны** прававы статус. З аднаго боку, Канстытуцыйны суд надзелены асобнымі судовымі функцыямі, ажыццяўляе асаблівы від правасуддзя — канстытуцыйны. З другога боку, ён уваходзіць у сістэму органаў дзяржаўнай улады, якія ажыццяўляюць кантроль за канстытуцыйнасцю нарматыўных актаў.



**Валерый ЦІХІНЯ**
**Старшыня Канстытуцыйнага суда, доктар юрыдычных навук, заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь**

Канстытуцыйны суд незалежны. Іншыя галіны ўлады не маюць права ўмешвацца ў яго дзейнасць па ажыццяўленню канстытуцыйнага кантролю.

Канстытуцыйны суд не павінен урывацца ў сферу палітыкі. Ён не можа дазволіць выкарыстаць сябе ў якасці інструмента ў палітычнай барацьбе. Разам з тым Канстытуцыйны суд у шэрагу выпадкаў... асуджаны вырашаць палітычныя пытанні (напрыклад, аб канстытуцыйнасці законаў аб выбарах). Уяўляецца, што выйсце з гэтай супярэчнасці трэба шукаць у наступным: суд абавязаны палітычныя пытанні вырашаць толькі **прававымі** сродкамі, яго рашэнні заўсёды павінны выражаць толькі прававую пазіцыю суддзяў. Ён закліканы па ўсіх справах правяраць нарматыўныя акты на сумяшчальнасць з Канстытуцыяй.

### АБ СТАНЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ ЗАКОННАСЦІ

Рэспубліка Беларусь цяпер перажывае складаны этап свайго станаўлення. Ідзе цяжкі працэс фарміравання новай прававой сістэмы. Асноўны прынцып прававой дзяржавы — прынцып вяршэнства закона, прымату права — у поўнай меры яшчэ не працуе. Цяперашнія рэаліі такія: у нас ёсць законы, але няма належнай законнасці. Працвітае прававы нігілізм...

У абстаноўцы непаважлівых адносінаў да закона ні адна з галін улады (заканадаўчая, выканаўчая, судовая) не можа нармальна функцыянаваць. У адпаведнасці з канстытуцыйным прынцыпам падзелу ўладаў арганізаваць выкананне законаў павінна выканаўчая ўлада. Гэта яе найважнейшая функцыя. Разам з тым трэба прызнаць, што ўказаную функцыю дадзеная галіна ўлады выконвае, мякка кажучы, не лепшым чынам.

Часам у некаторых сродках масавай інфармацыі можна сустрэць заявы аб тым, што дрэнныя законы можна і не выконваць. Гэта — яўна памылковая думка.

Справа ў тым, што пакуль закон не адменены ва ўстаноўленым парадку, незалежна ад таго, добры ён ці дрэнны, яго трэба выконваць. У іншым выпадку мы становімся на хісткі шлях прававой беззаконнасці. Давайце не забываць вядомыя словы Цыцэрона: «Мы павінны быць рабамі закона, каб быць свабоднымі».

Вызначальным паказчыкам стану канстытуцыйнай законнасці з'яўляецца захаванне правоў чалавека. Асноўны Закон Рэспублікі Беларусь абвясціў чалавека вышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы. Са 149 яго артыкулаў 78 прысвечаны прававому статусу асобы, правам і свабодам грамадзян.

Паводле ацэнкі многіх замежных экспертаў, правы і свабоды, замацаваныя ў беларускай Канстытуцыі, адпавядаюць прынцыпам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, Пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, іншых міжнародна-прававых дакументаў.

Асноўныя правы і свабоды належаць кожнаму чалавеку ад нараджэння. Яны не падораны дзяржавай, узнікаюць незалежна ад яе, таму не могуць быць ёю адменены. Дзяржава абавязана прызнаваць правы і свабоды чалавека, замацоўваць іх у законах і аберагаць усімі наяўнымі ў яе сродкамі. Гэта абавязак кожнай дзяржавы, якая лічыць сябе дэмакратычнай. У сувязі з гэтым найважнейшая задача Канстытуцыйнага суда заключаецца ў тым, каб канстытуцыйныя нормы, прысвечаныя прававому статусу асобы, не ператварыліся ў нормы чыста дэкларатыўнага характару...

### ПЕРШЫЯ КРОКІ ПРАКТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА

У 1994 годзе Канстытуцыйным судом распрацаваны і прыняты пакет прававых дакументаў, якія рэгламентуюць яго дзейнасць: працэсуальны кодэкс Канстытуцыйнага суда ў выглядзе Рэгламента, Кодэкс гонару суддзі Канстытуцыйнага суда, Палажэнне аб Навукова-кансультацыйным савеце пры Канстытуцыйным судзе і г. д.

Аб прафесіянальным узроўні суддзяў Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь сведчаць наступныя даныя. У саставе суда 5 заслужаных юрыстаў, тры доктары і адзін кандыдат юрыдычных навук. Двое суддзяў (да іх выбрання ў суд) былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Высокім прафесіянальным аўтарытэтам карыстаюцца суддзі, якія многія гады аддалі рабоце ў судах агульнай юрысдыкцыі і праваахоўных органах. На нашу думку, Канстытуцыйны суд у 1994—1995 гг. у межах магчымага ўнёс свой уклад у вырашэнне праблем канстытуцыйнага кантролю ў Беларусі. За гэты перыяд суд разгледзеў 27 спраў. Яго рашэнні былі накіраваны на забеспячэнне такіх важнейшых прынцыпаў прававой дзяржавы, як прынцып падзелу ўладаў, прынцып вяршэнства законаў, прынцып узаемнай прававой адказнасці і інш.

Канстытуцыйны суд, выкарыстоўваючы прадастаўленае яму артыкулам 127 Канстытуцыі права ініцыіраваць працэсы па свайму меркаванню, узбудзіў і разгледзеў шэраг спраў аб абароне канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян. У першую чаргу суд звярнуў увагу на абарону грамадзян у галіне працоўных, грамадзянскіх і іншых праваадносінаў.

Па разгледжаных справах праверцы на прадмет адпаведнасці Канстытуцыі падвергнуты ўвогуле 32 нарматыўныя акты, у тым ліку 13 законаў, 13 указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, 3 пастановы ўрада і 3 іншыя нарматыўныя акты. Былі прызнаны неканстытуцыйнымі поўнасцю або часткова 22 нарматыўныя акты. У працэсе разгляду канкрэтных спраў Канстытуцыйны суд даў казуальнае тлумачэнне некаторым канстытуцыйным нормам. Разгледжана каля паўтары тысячы зваротаў грамадзян, дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў і службовых асоб.

Мінулы год для Канстытуцыйнага суда быў вельмі цяжкім. Вобразна кажучы, мы былі падобны на карабель, які трапіў у дзевяцібальны шторм. Тым не менш, суд не страціў «ні руля, ні вятрыл», ён вытрымаў экзамен на трываласць і сталасць.

Сёння сур'ёзны адбітак на дзейнасць Канстытуцыйнага суда накладваюць тыя абставіны, што ў нашай дзяржаве ёсць вельмі многа недасканалых, супярэчлівых законаў і іншых нарматыўных актаў. У такой абстаноўцы займацца правапрымяняльнай дзейнасцю складана. Акрамя таго, не можа быць справядлівым суд, калі несправядлівы закон. У сувязі з гэтым хацелася б, каб новы Вярхоўны Савет як мага хутчэй пачаў «капітальны рамонт», абнаўленне цяпер дзеючага заканадаўства і перш за ўсё ў сферы эканомікі.

Вельмі актуальным для дзейнасці Канстытуцыйнага суда ў гэты перыяд з'яўляецца пытанне аб дзеянні законаў, прынятых да ўступлення ў сілу Канстытуцыі 1994 года. Згодна з артыкулам 128 Канстытуцыі нарматыўныя акты, прызнаныя неканстытуцыйнымі па прычыне парушэння імі правоў і свабод чалавека, лічацца не маючымі юрыдычнай сілы ў цэлым або ў пэўнай частцы з моманту **прыняцця** адпаведнага акта. Атрымліваецца, што нават калі акт быў прыняты задоўга да новай Канстытуцыі, то ў выпадку яго неканстытуцыйнасці ён прызнаецца не маючым юрыдычнай сілы з даты прыняцця. Аднак, зыходзячы з таго, што ў Законе «Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь» прадугледжаны механізм рэалізацыі «старых» актаў (яны дзейнічаюць у той частцы, у якой не супярэчаць Канстытуцыі 1994 года), лічым магчымым прызнаваць «старыя» акты не маючымі юрыдычнай сілы з дня ўступлення ў дзеянне Канстытуцыі, г. зн. з 30 сакавіка 1994 года.

На нашу думку, многія дзяржаўныя органы і службовыя асобы не рэалізуюць прадастаўленае ім Канстытуцыяй права прымаць рашэнні непасрэдна на аснове яе нормаў.

Напрыклад, судамі агульнай юрысдыкцыі не выкарыстоўваецца прадастаўленае артыкулам 112 Канстытуцыі права вырашаць канкрэтныя справы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і ставіць ва ўстаноўленым парадку пытанне аб прызнанні таго ці іншага нарматыўнага акта неканстытуцыйным.

Рашэнні Канстытуцыйнага суда, прынятыя ў межах яго кампетэнцыі, носяць абавязковы характар.

Пры гэтым абавязковасць яго рашэнняў не абмяжоўваецца ні па сферы распаўсюджання (уся тэрыторыя Рэспублікі Беларусь), ні па кругу асоб (усе суб'екты права на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама беларускія юрыдычныя і фізічныя асобы, якія знаходзяцца за мяжой).

Разглядаючы выкананне рашэнняў Канстытуцыйнага суда як неабходную ўмову ўмацавання законнасці, трэба прызнаць, што Вярхоўны Савет, іншыя дзяржаўныя органы і службовыя асобы праяўляюць нічым не апраўданую марудлівасць у пераглядзе некаторых законаў і іншых нарматыўных актаў, аб неканстытуцыйнасці якіх судом прыняты рашэнні. Так, рашэнне аб неканстытуцыйнасці артыкула 9 Закона аб замежных інвестыцыях Канстытуцыйным судом прынята яшчэ ў кастрычніку 1994 года. Да гэтага часу адпаведныя змены ў гэты закон Вярхоўным Саветам не ўнесены.

***

У апошні час дзейнасць Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь прыцягнула вялікую ўвагу ў нашай краіне і за мяжой. У нас складваюцца добрыя дзелавыя кантакты з многімі замежнымі канстытуцыйнымі судамі і перш за ўсё з судамі Аўстрыі, Венгрыі, Германіі, Польшчы, Расіі і г. д. Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прыняты асацыіраваным членам міжнароднай арганізацыі, якая называецца Еўрапейскай канфедэрацыяй канстытуцыйных судоў.

Стварэнне Канстытуцыйнага суда — аднаго з галоўных інстытутаў умацавання асноў дзяржаўнасці — адкрывае новую старонку ў канстытуцыйнай гісторыі Рэспублікі Беларусь, гэта важны крок на шляху да пабудовы ў нашай краіне дэмакратычнай прававой дзяржавы.

# П. КРАЎЧАНКА:

# «Беларускі народ мае права на кампенсацыю за уран у ракетах тактычнага і стратэгічнага прызначэння»

**З экс-міністрам замежных спраў Беларусі, дэпутатам парламента Пятром Краўчанкам гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў Зяньковіч.**

**— Пётр Кузьміч! Не адно пакаленне дзяржаўных мужоў ламае галаву над пытаннем, адкуль узяць дадатковыя сродкі ў дзяржаўны бюджэт? У вас, як спецыяліста ў галіне міжнародных адносінаў, ёсць які-небудзь рэцэпт?**

— Так, ёсць. Узяць хоць бы праблему кампенсацый за уран, здабыты з выводзімых у Расію ракет тактычнага і стратэгічнага прызначэння.

31 ліпеня 1991 года прэзідэнты СССР М. Гарбачоў і ЗША Д. Буш падпісалі Дагавор аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў (СНУ-1). Свет апладзіраваў гэтаму дагавору, паколькі яго падпісанне ў значнай меры зменшыла ядзернае процістаянне. У той час я нават не падазраваў, што аднойчы акажуся ў эпіцэнтры гэтых сусветных падзей і буду мець самыя непасрэдныя адносіны да праблем ядзернага раззбраення.

Ад імя Беларусі я падпісваў, у прыватнасці, сапраўды гістарычны Лісабонскі пратакол у маі 1991 года. Гэты дакумент даў магчымасць нашай рэспубліцы на 9 месяцаў дэюрэ стаць ядзернай дзяржавай.

Статус Беларусі як ядзернай дзяржавы мы не маглі і не збіраліся ўтрымаць. На мой погляд, гэта і не трэба было рабіць, паколькі рэспубліка была не гатова трансфармавацца ў ядзерную краіну. Стаць ядзернай дзяржавай нам проста не далі б пяць краін — членаў ядзернага клуба. А галоўнае, Беларусь не мела эканамічных магчымасцей утрымліваць уласную ядзерную зброю. Толькі падтрыманне ракет у належным тэхнічным стане патрабуе затрат у сотні мільёнаў долараў у год.

Беларусь стала першай дзяржавай у свеце, якая добраахвотна адмовілася ад права валодання ядзернай зброяй. Прычым зрабіла гэта свядома, без націску звонку.

Па сутнасці, ядзерную зброю, перш за ўсё тактычную, з Беларусі пачалі вывозіць пачынаючы з 1992 года. Мы падпісалі два пагадненні з Расіяй, якія прадугледжваюць канчатковы вывад ядзерных ракет з рэспублікі ў 1996 годзе. Тэрмін вываду некаторых дыслацыруемых у Беларусі часцей расійскіх войскаў стратэгічнага прызначэння вызначыўся 1998-м і нават 1999 годам. Прыкладна да двухтысячнага года Беларусь зможа набыць бяз'ядзерны статус.

На тэрыторыі рэспублікі размешчаны звышсучасныя ядзерныя ракеты класа SS-25. Яны вывозяцца на закрытыя ваенныя прадпрыемствы Расіі «Арзамас-2», дзе падвяргаюцца разукамплектацыі і дэмантажу. Вось тады з гэтых ракет і здабываецца так званы зброевы уран.

Як чалавек, азнаёмлены з многімі нюансамі, звязанымі з вывадам стратэгічных ядзерных ракет, адзначу, што пэўныя складанасці з выкананнем графіка іх транспарціроўкі ў Расію былі. Аднак цяпер яны пераадолены.

**— Што гэта за праблемы?**

— Існавалі пэўныя рознагалоссі паміж расійскім і беларускім бакамі ў адносінах да графіка вываду стратэгічных ядзерных сіл. Аднак, як чалавек, які з'яўляецца носьбітам дзяржаўных сакрэтаў, я не магу раскрываць падрабязнасці. Ракеты, якія апынуліся на тэрыторыі Расіі, — велізарны патэнцыял, велізарнае багацце. Сам па сабе уран мае велізарную каштоўнасць.

Вядома, што з ракет, якія падлягаюць ліквідацыі і знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, Казахстана, Расіі і Украіны, плануецца здабыць каля 500 тон зброевага урану. Згодна з дагаворам СНУ-1 гэты уран будуць купляць ЗША. Паводле ацэнак расійскіх экспертаў, сумарны кошт урану складзе 10—12 мільярдаў долараў ЗША.

**— Але ці мае права Беларусь прэтэндаваць на гэты уран?**

— Адназначна заяўляю, што мае, паколькі ядзерны патэнцыял Савецкага Саюза ствараўся з удзелам усіх народаў, якія ўваходзілі ў яго, падаткаплацельшчыкаў усіх рэспублік, у тым ліку і Беларусі.

У свой час маёмасць ліквідаванага СССР была раздзелена рэспублікам згодна з так званым «нулявым» варыянтам. Гэта значыць суб'ектам былога Саюза дасталося тое, чым яны рэальна валодалі на момант падпісання адпаведнага пагаднення.

На мой погляд, гэта формула не павінна прымяняцца, напрыклад, да раздзелу марскога флоту СССР і праблемы урану. Восенню 1992 года я ініцыіраваў абмеркаванне гэтай праблемы на ўзроўні тагачасных Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча і прэм'ер-міністра В. Кебіча, але асаблівага энтузіязму мая прапанова не выклікала.

Хоць навуковы патэнцыял атамшчыкаў-тэарэтыкаў у Беларусі вялікі, у нас няма фізікаў-атамшчыкаў, якія спецыялізуюцца ў практычнай сферы. Вайсковыя фарміраванні, якія маюць на ўзбраенні ядзерную зброю, падпарадкоўваліся непасрэдна Маскве, а не камандаванню Беларускай ваеннай акругі. Перакананы, што нават нябожчык П. Машэраў, будучы першым сакратаром ЦК КПБ, не ведаў месцаў дыслакацыі каля 30 стартавых кропак ядзерных ракет на тэрыторыі рэспублікі. Аб гэтым ведала вузкае кола камандавання Міністэрства абароны СССР і палітычнае кіраўніцтва Савецкага Саюза. Нават я, будучы міністрам замежных спраў Беларусі, даведваўся пра некаторыя дэталі ад тагачаснага дзяржсакратара ЗША Д. Бейкера!

Таму, калі перад Масквой было пастаўлена пытанне аб магчымасці пачатку перагавораў па урану, аб вызначэнні нашай долі, прадстаўнікі Расіі толькі пасмяяліся над намі: маўляў, спачатку дакажыце, што вам што-небудзь вядома аб ракетах.

Але летам 1992 года на беларуска-расійскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў у маскоўскім «Прэзідэнт-атэлі» сітуацыя змянілася. З санкцыі В. Кебіча ў час перагавораў я афіцыйна паставіў гэта пытанне перад прэзідэнтам Б. Ельцыным, прэм'ер-міністрам Я. Гайдарам і кіраўніком МЗС А. Козыравым. Мне ўдалося дабіцца ў Я. Гайдара падпісання пратакола, які афіцыйна прызнаваў існаванне праблемы «беларускага урану», здабываемага з ракет, выведзеных з тэрыторыі нашай рэспублікі. З беларускага боку пратакол падпісаў В. Кебіч. Хачу адзначыць, што тэкст гэтага дакумента быў складзены мной на працягу некалькіх хвілін непасрэдна ў «Прэзідэнт-атэлі». Пратакол быў сакрэтным, быў падпісаны ў адным экземпляры і захоўваўся ў мяне ў сейфе. Аб яго існаванні не ведаў ніхто, акрамя кіраўнікоў Беларусі і Расіі.

Пасля гэтага пачаліся зацяжныя перагаворы з Масквой. Расія рабіла ўсё магчымае, каб не канкрэтызаваць дыялог па гэтай праблеме.

Было ўстаноўлена, што доля Беларусі ў ядзерным патэнцыяле СССР складае 10—15 працэнтаў. Такім чынам, наша рэспубліка можа прэтэндаваць прыкладна на 1—1,5 мільярда долараў ЗША. Адзначу, што гэта сума не можа паступіць у Беларусь за адзін раз. Лічу, што грошы рэальна атрымаць на працягу бліжэйшых сямі-васьмі гадоў. Гэта тлумачыцца працягласцю працэсу здабывання урану з ракет, яго перапрацоўкі ў паліва для атамных электрастанцый. Да таго ж у свеце існуюць пэўныя квоты гандлю уранам, якія рэгулююцца двухбаковым расійска-амерыканскім пагадненнем.

16 студзеня 1994 года ў ходзе кароткачасовага наведвання прэзідэнтам ЗША Б. Клінтанам Кіева было падпісана трохбаковае амерыкана-ўкраінска-расійскае пагадненне, якое датычыць урану. Украіна цяпер мае ўсе правы на атрыманне сваёй долі грашовай кампенсацыі за уран, прычым, які ўтрымліваецца не толькі ў стратэгічных, але і тактычных ракетах. У беларуска-расійскіх перагаворах гэта з'яўляецца пакуль асноўнай перашкодай. Дыялог на гэту тэму з Масквой у апошнія паўтара года адбываецца вельмі вяла, безыніцыятыўна з беларускага боку. Расійскі бок быццам бы згодны падзяліцца грашыма за уран, але выстаўляе сустрэчныя ўмовы: няхай Беларусь перадасць ужо цяпер некалькі дзесяткаў мільёнаў долараў на фінансаванне работ па перапрацоўцы зброевага урану ў сыравіну, прыдатную для мірнага яго выкарыстання.

Асабліва непрыемна было тое, што расіяне ўтойвалі ад нас тактыка-эканамічныя даныя аб уране ў ракетах, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. Калі Расія зацягвала перагаворы на гэту тэму, я быў вымушаны апеляваць да ЗША. Гутарыў з Д. Бейкерам, неаднаразова сустракаўся з сенатарамі Сэмам Нанам і Рычардам Лугарам у Вашынгтоне (непасрэдна ў кангрэсе) і ў Мінску. Яны аказалі націск на Расію, і толькі дзякуючы гэтаму ўдалося дабіцца пэўнага прагрэсу на перагаворах. Дзіўна, што, падпісаўшы ўпамянёнае вышэй пагадненне ў Кіеве, Б. Клінтан не падпісаў аналагічны дакумент у Мінску ў ходзе тагачаснага візіту. Добра памятаю тую бяссонную ноч з 15 на 16 студзеня 1994 года і вельмі інтэнсіўны трохбаковы дыялог, які вёўся паміж МЗС Беларусі і «камандай» Б. Клінтана, што знаходзілася ў Маскве. Да 5.00 раніцы стала ясна, што амерыканцы па незразумелых прычынах абмяжуюцца толькі агульнай заявай на гэты конт. Па сутнасці, гэты быў адыход ад раней дасягнутых дагаворанасцей паміж беларускім і амерыканскім бакамі.

У верасні 1993 года Расія паспрабавала «вырваць» у Беларусі неіснуючы «уранавы вэксаль», прапанаваўшы за яго кошт пагасіць запазычанасць за пастаўленыя ў Беларусь энерганосьбіты. Не ведаю, выпадкова гэта ці не, але якраз напярэдадні гэтай спробы ў нашай рэспубліцы было напружанае становішча з пастаўкамі паліва, неабходнага для ўборкі ўраджаю. Парадаксальнасць сітуацыі заключалася ў тым, што адмовіцца ад сваёй долі за уран мы павінны за бесцань, прыкладна за 350—400 мільёнаў долараў (прыкладна такой была сума нашай запазычанасці за энерганосьбіты Расіі). У маім асабістым архіве захаваўся запіс аднаго з віцэ-прэм'ераў нашага ўрада, у якім гаворыцца, што Расія, маўляў, спяшаецца (на верасень 1993 года быў намечаны візіт В. С. Чарнамырдзіна ў ЗША) і МЗС Беларусі не варта ўпірацца... У гэтай сітуацыі я адмовіўся фарсіравана ісці насустрач пажаданням Расіі і «здаваць» нашы пазіцыі.

Ужо пакінуўшы пасаду міністра замежных спраў, працягваю ў рамках неафіцыйнай дыпламатыі весці перагаворы на гэту тэму. У лістападзе мінулага года, у прыватнасці, сустракаўся ў ЗША са старшынёй камісіі па замежных справах кангрэса ЗША Гілманам. Ён даў зразумець, што ЗША не будуць купляць першыя тоны здабытага з ракет урану да таго часу, пакуль Беларусь, Казахстан, Расія і Украіна самі паміж сабой не ўрэгулююць адпаведныя пытанні. На працягу гэтага года з панам Гілманам мы абмяняліся пісьмамі па дадзенай праблеме.

Дзейнічаю выключна з патрыятычных меркаванняў. Не важна, хто будзе знаходзіцца на чале ўлады ў Беларусі, але грошы за уран павінны належаць нашаму народу.

Думаецца, што калі б на ўзроўні вышэйшага палітычнага кіраўніцтва Беларусі была праяўлена воля, то без усякага сумнення, перагаворы з Масквой маглі б пайсці намнога больш паспяхова. На пэўным этапе праблему зброевага урану трэба было б увязаць з комплексам іншых праблем, у вырашэнні якіх зацікаўлена Расія.

Шчыра веру ў тое, што настойлівасць нашага кіраўніцтва і добрая воля кіраўніцтва Расіі прывядуць да кансенсусу наконт гэтага. Бо, зыходзячы з шэрага міжнародна-прававых актаў, логікі развіцця падзей, звязаных з ратыфікацыяй 4 лютага 1993 года нашым парламентам Дагавора СНУ-1, праўда на нашым баку. Мы хочам атрымаць усяго толькі тое, што па праву належыць беларускаму народу.

*ДУМКА ЭКСПЕРТА*

# Паміж Сцылай і Харыбдай

У дыскусіі аб курсе рубля, якая разгарнулася апошнім часам, на наш погляд, неапраўдана мала ўдзяляецца ўвагі рэальнаму становішчу прадпрыемстваў-экспарцёраў і ў цэлым перспектывам экспарту.

Разам з тым нязменны курс беларускага рубля (з красавіка мінулага года) ва ўмовах няспыннага росту затрат на вытворчасць і збыт прадукцыі, недастатковага ўзроўню канкурэнтаздольнасці айчынных тавараў на традыцыйных рынках як па якасці, так і па цане вядзе да істотнага зніжэння эфектыўнасці экспарту і пагаршэння фінансавага становішча прадпрыемстваў-экспарцёраў.

Найбольш наглядна зніжэнне эфектыўнасці экспарту праяўляецца ў змяншэнні рэнтабельнасці канкрэтных вырабаў, пастаўляемых на экспарт.

| Прадпрыемствы | Выраб | Рэнтабельнасць, прац. | |
|---|---|---|---|
| | | снежань 1994 год | верасень 1995 год |
| Мотавелазавод | Матацыкл | 14,5 | -60,7 |
| АТ «Мінскі гадзіннікавы завод» | Гадзіннікі наручныя механічныя пазалоч. | 38,2 | 0,2 |
| Мінскі трактарны завод | Трактар | 3,9 | -37,8 |
| АТ «Атлант» | Халадзільнік «Мінск-215» | 76,8 | 2,4 |
| МААТ «Прамень» | Паўбоцікі мужчынскія хром. | 22,1 | -21,8 |
| МШФ «Мілавіца» | Гарсэтныя вырабы | 75,0 | 39,3 |
| Светлагорскае ВА «Хімвалакно» | Нітка поліэфірная тэкстыль | 24,6 | -1,1 |
| Беларускі металургічны завод | Арматурны пракат | 22,7 | 2,6 |

Як вынік, фінансавае становішча гэтых прадпрыемстваў, аб чым сведчаць ніжэйпрыведзеныя даныя, абвастрылася, а на большасці з іх — істотна. І гэта ў сваю чаргу стварае прамыя прадпасылкі для зніжэння натуральных аб'ёмаў экспарту.

| Прадпрыемствы | Рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі, прац. | | Доля ўласных крыніц абаротных сродкаў, прац. | |
|---|---|---|---|---|
| | снежань 94 | верасень 95 | 1.01.95 | 1.10.95 |
| Мотавелазавод | 47,4 | -9,6 | -18,3 | -19,7 |
| АТ «Мінскі гадзіннікавы завод» | 13,2 | -5,4 | 60,5 | 54,3 |
| Мінскі трактарны завод | 11,7 | -3,4 | 41,5 | 19,6 |
| АТ «Атлант» | 180,0 | 33,4 | 60,1 | 41,6 |
| МААТ «Прамень» | 89,0 | 11,9 | 45,1 | 22,2 |
| МШФ «Мілавіца»* | 63,5 | 30,3 | 37,6* | 52,2 |
| Светлагорскае ВА «Хімвалакно» | 36,6 | 1,3 | 13,0 | -10,8 |
| Беларускі металургічны завод | 28,3 | 3,9 | 47,9 | 16,2 |

** На МШФ «Мілавіца» сярэднія запасы абаротных сродкаў на рубель рэалізаванай прадукцыі знізіліся з 0,9 рубля ў I квартале да 0,6 рубля ў III квартале.*

Відавочна, што галоўнымі фактарамі вырашэння праблемы павышэння эфектыўнасці экспарту з'яўляюцца паляпшэнне якасці тавараў, зніжэнне затрат, прывядзенне ў адпаведнасць вырабляемай прадукцыі патрэбнасці рынку, пошук новых рынкаў збыту.

Вырашэнне гэтых пытанняў патрабуе часу і інвестыцый і, несумненна, яны павінны быць найважнейшымі састаўнымі эканамічнай палітыкі кожнага прадпрыемства.

Несумненна таксама, што найбольш поўная і паўсюдная рэалізацыя гэтых увогуле добра вядомых патрабаванняў, як паказвае сусветны і, на жаль, прама процілеглы наш вопыт, магчыма толькі ва ўмовах рэальнай канкурэнцыі суб'ектаў-уласнікаў, якая стварае магутную ўнутраную матывацыю да эфектыўнай дзейнасці. Але тут мы, на жаль, працягваем таптацца на месцы. Працэс рэфарміравання ўласнасці неапраўдана зацягнуўся, а ў 1995 г. практычна быў згорнуты.

Другі аспект разглядаемай праблемы звязаны з пытаннем абгрунтаванасці дынамікі курса нацыянальнай валюты. У выніку практычнай нязменнасці намінальнага курса беларускага рубля і росту спажывецкіх цэн (лістапад 1995 г. да снежня 1994 г. — 331,1 працэнта) рэальны курс беларускага рубля (адносна долара і інфляцыі ў развітых краінах) павялічыўся ў гэтым годзе больш чым у 3 разы і, адпаведна, рэальны курс долара (адносна рубля) зменшыўся прыкладна на 67 працэнтаў. Аднак такі імклівы рост не быў забяспечаны хоць якімі-небудзь істотнымі станоўчымі вынікамі ў эканоміцы (працягваецца спад вытворчасці, абвастраецца праблема збыту прадукцыі, расце ўнутраная і знешняя запазычанасць прадпрыемстваў), а з'явіўся, перш за ўсё, вынікам жорсткай дзяржаўнай (па сутнасці адміністрацыйнай) фіксацыі курса нацыянальнай валюты ў другім паўгоддзі бягучага года.

Трэба сказаць, што нязменнасць курса ва ўзнікшых умовах, аказваючы вышэйадзначаны адмоўны ўплыў на фінансавы стан прадпрыемстваў-экспарцёраў, мела і антыінфляцыйны эфект, абмяжоўваючы рост цэн на імпартуемыя рэсурсы і канчатковыя прадукты. Заўважым, што абмежаванне цэн на імпартуемыя канчатковыя прадукты стварае дадатковыя цяжкасці збыту для айчынных вытворцаў аналагічных вырабаў і, адпаведна, абвастрае для іх праблему ўнутранага рынку.

Прыхільнікі працягу жорсткай фіксацыі курса рубля і, адпаведна, праціўнікі дэвальвацыі ў якасці аргумента сваім апанентам слушна выстаўляюць пагрозу ўзмацнення інфляцыі. Аднак рэальнасць заключаецца ў тым, што эканоміка краіны знаходзіцца, вобразна кажучы, у бурным праліве паміж Сцылай усплёску інфляцыі і Харыбдай развалу экспартнага патэнцыялу і падаўлення перспектыў яго росту з аднолькава згубнымі вынікамі абвастрэння крызісу. І, відавочна, узнікшая сітуацыя патрабуе выпрацоўкі і рэалізацыі такога курсу праходжання гэтага бурнага праліва, які забяспечваў бы неабходную манеўранасць і мінімальныя страты для карабля эканомікі. Пры гэтым недапушчальная тая ці іншая крайнасць, а, наадварот, неабходна гарманічнае спалучэнне комплексу эканамічных мераў і інструментаў. У ліку такіх мераў і інструментаў, на наш погляд, павінны быць разгледжаны наступныя:

— увядзенне валютнага калідора з устанаўленнем ніжняй мяжы долара на пяць працэнтаў вышэй за існуючую;

— распрацоўка і рэалізацыя мераў эканамічнага стымулявання экспарту, уключаючы, у прыватнасці, ільготнае падаткаабкладанне прыросту экспарту, адмену экспартных пошлін і інш.

Абавязковай умовай стрымлівання інфляцыі з'яўляецца таксама недапушчальнасць эканамічна не абгрунтаванай крэдытнай эмісіі.

Магчыма, не ўсё вышэйсказанае з'яўляецца бясспрэчным. Але адно відавочна: спроба замарозіць узнікшую сітуацыю, ігнаруючы інтарэсы экспарту, ні да чаго добрага не прывядзе. Час не будзе чакаць. Наш карабель ужо ў праліве, па абодва бакі якога з прагнасцю глядзяць на нас і Сцыла, і Харыбда.

**Леанід СІВЕРЦАЎ, эканаміст.**

**НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ**

Зінаіда ДУДЗЮК

# СУСТРЭЧЫ Ў ДАРОЗЕ

## 1. ЦЯНЁТЫ МІНУЛАГА

Шматлюдны вечаровы вакзал поўніўся невыразным гулам. Пасажыры нетаропка сноўдаліся ў зале чакання, нешта куплялі ў кіёсках і буфеце, елі, пілі, размаўлялі. Іхнія галасы адбіваліся ад гладкіх каменных сценаў і высокай пабеленай столі, змешваліся, вярталіся ўніз бязладным, бесперапынным рэхам.

У чаканні свайго цягніка я прымасцілася скраю на лаўцы, назірала за людзьмі. Мне падабаецца вылучаць у гурце прывабныя твары і непрыметна любавацца імі. Спахапілася ад таго, што проста да мяне ішоў шаноўнага веку чалавек, з белым кіёчкам у руцэ. Сляпы. Паднялася яму насустрач, дапамагла сесці. Ён падзякаваў, уладкаваўся лацвей, узняў галаву, нібыта ўзіраўся ўдалячынь. Ягоны твар свяціўся задаволенасцю і спакоем. Мусіць, слепата адгароджвала яго ад трывожнага і вірлівага свету.

— Добра! Ах, як добра! — сказаў ён і прыгладзіў свае бліскучыя сівыя валасы.

Я падумала, што ён гаворыць сам з сабою, але чалавек адчуваў маю прысутнасць побач і патлумачыў мне:

— Зайшоў да дзяўчат у цырульню. Яны мяне пагалілі, пастрыглі, галаву памылі... Як на свет нарадзіўся! Якія ў дзяўчат ласкавыя рукі!..

На сляпым было бруднае, заношанае адзенне, няйначай, ён даўно жыў бяздомна, таму гэтак востра адчуваў асалоду ад пастрыжанай і вымытай галавы, паголенага твару.

— А хіба вы адзін жывяце? — асцярожна запыталася я.

— Чаму ж адзін? Скрозь — людзі. Але абрыдла ўсё. Уцёк з Дома інвалідаў. Нудота там. Кормяць брыдка... А тут я сам сабе гаспадар...

— Як жа вы адзін?..

— А што мне халастому... Пастаю з шапкаю тут, на вакзале, дык і маю на чарку і шкварку. Кум каралю, сват міністру. Даў Бог дзень, дасць і ежу...

— І як з вамі гэтая бяда здарылася?

— На будоўлі працаваў, упаў з рыштаванняў. Галавою выцяўся, а вочы перасталі бачыць. Ат, чалавек да ўсяго прывыкае. Ды ў нас некаторыя і не жадаюць зрок вяртаць, каб выгод не пазбыцца...

— А ці застаўся ў вас хто з блізкіх?

— Была жонка, дзеці, — загаварыў напорыста, напружана, каб упэўніць мяне. — Але няўжо я пайду да дачкі або сына сядзець трутнем на іхніх шыях. Барані Божа, родных дзяцей аб'ядаць. Няхай жывуць шчасліва. Мне нянькі не трэба! Канечне, каб сустрэлася для жыцця сардэчная жанчына, быў бы рады... Пенсію маю добрую ды і назбіраю грошай. Жылі б, прыпяваючы...

Голас ягоны загучаў горача, усхвалявана, на момант ён нават павярнуў да мяне невідушчы твар, але тут жа зноў годна ўскінуў галаву:

— Я не валацуга які, не п'яніца... Ну, вазьму чарку ў свята ад нуды. А каб такая ласкавая ды ўважлівая, як ты, была побач...

Я маўчала, не ведаючы, што адказаць, каб незнарок не абразіць. Ён, счакаўшы хвілінудругую, загаварыў раздражнёна, з прытоенаю крыўдаю ці нават злосцю:

— Можа, ты сумняваешся, ці я яшчэ мужчына? Ды не хвалюйся, я сябе не патраціў...

Яго не цікавіла, як я выглядаю, колькі мне гадоў, бо душы не маюць узросту. Маё маўчанне крыўдзіла яго больш, чым адмова.

— Вы цудоўны чалавек, — ціха азвалася я, — але ў мяне ўжо ёсць сям'я: муж і малое дзіця...

Гэтыя словы сказаліся лёгка, яны былі праўдаю. Сляпы апусціў галаву, задумаўся, аціх. Здаецца, задрамаў. Я асцярожна, каб не пабудзіць яго, паднялася і з прытоенаю віною пайшла на перон. А чым я магла яму дапамагчы? Хіба можна пакахаць па дамоўленасці? Кожны з нас належыць свайму мінуламу, якое часам карае тым, што адбірае будучыню, пра якую марылася.

## 2. СПАДАРОЖНІКІ

За слязлівым вагонным акном цягнуліся аголеныя восенню абшары, чорныя, мокрыя, непрытульныя. Насупраць мяне ў купэ сядзелі муж з жонкаю, стомленыя жыццём і дарогаю. Маўчалі. Твар мужчыны пахмурна-раўнадушны выдаваў толькі нездаволенасць доўгаю дарогай. Вочы жанчыны крычалі ад патаемнага болю, прагнулі разумення і спагады. Я тут была лішняя.

Маўчанне прыгнятала, станавілася невыносным. Мужчына падняўся, буркнуў: «Пайду, пакуру...» — і выйшаў з купэ.

Мы са спадарожніцаю засталіся сам-насам. Яна раптам ажывілася, зацікаўлена зірнула мне ў вочы:

— Ці далёка вам ехаць?

— У Брэст.

— А мы толькі да Баранавічаў. Пятыя суткі ўжо едзем.

— Як доўга... Адкуль жа?

Жанчына назвала далёкі сібірскі горад і пачала апавядаць, вызваляючы душу ад набалелага:

— Бяда ў нас, сына за хуліганства пасадзілі. Пабіўся з некім. Тым — нічога, а ён сядзіць. Пацягнула яго ў Расію на вялікія заробкі. Вядома, вялікія грошы — адна распуста ды п'янства. Прыехалі да яго ў турму. Ён у бальніцы ляжыць. А што там з ім? Адзін Бог ведае... Сэрца разрываецца... Паказалі нам ягонае акно на другім паверсе. Толькі праз шыбу ды краты і пабачыліся.

— Чаму ж вам не дазволілі сустрэцца? — паспачувала я. — Вы столькі праехалі, каб убачыць сына...

— З-за нявесткі гэтак атрымалася. Яму дазволена адно спатканне на месяц. Нявестка разводзілася з ім і забрала гэты дзень, каб падпісаць нейкія паперы. Патрываць не магла. Ужо зноў замуж сабралася... Бяда адна не ходзіць... Заязджалі мы і да нявесткі. Унучка мая тамака расце... як ёй там жыць? Пакойчык у бараку малюсенькі: толькі ложак ды стол месцяцца. А нявестка ўжо прымака нейкага ўзяла. Што ты, гадаўка, нарабіла мне, кажу ёй? А яна толькі пасміхаецца...

Жанчына выцерла слёзы цёмнымі парэпанымі рукамі, паправіла квяцістую хустку на галаве, памаўчала хвіліну, перасільваючы плач, зноў загаварыла з болем і адчаем:

— Шкода малую, гэтак шкода... Калі яе зноў пабачу? Хацела да сябе забраць. У нас жа ўсё сваё: малачко, сад, агарод. Не дала нявестка. Кажа, што ў нас Чарнобыль. І як жа дзіцяці з імі жыць? За якія грахі мяне Бог пакараў? Гэта ж унучцы ўжо шосты годзік, усё разумее... Скардзіцца мне, што спяць яны ўтрох — нявестка, прымак і дзяўчынка, на адным ложку, а ўначы...

Раптам дзверы купэ расчыніліся, вярнуўся муж. Жанчына асеклася на паўслове, замоўкла. У купэ запанавала няёмкая цішыня.

Мужчына колькі часу паўзіраўся ў акно, пакашляў, памыляў вуснамі, сказаў панура жонцы:

— Пойдзем да выхаду, хутка Баранавічы...

Жанчына паслухмяна ўскінула на плечы паношанае, вузкаватае на яе мажную постаць паліто, няспешна падняла сумку, шчыра развіталася са мною. Нас зблізіла яе бяда, якою яна падзялілася са мной употай ад мужа, бо па-сапраўднаму зразумець жанчыну можа толькі жанчына.

## Тэлебачанне, 9 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**8.30** Абібок.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя. 9-ы клас. Вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.
**9.25** «Вестгейт». Тэлесерыял (ЗША).
**10.20** «Усё пра ўсё».
**10.40** «Дом для Кузькі», «Акаіро», «Дамавік і гаспадыня». Мультфільмы.
**11.30** Аўта-парк.
**11.45** Камп'ютэрны палігон.
**12.10** «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан». Маст. фільм. 1-я серыя «Знаёмства».
**15.00** Навіны.
**15.15** Гандлёвы дом.
**15.30** «Маленькія цуды». Мультфільм.
**15.40** Тэлебачанне — школе. Гісторыя. 8-ы клас. Паўстанне 1863 года на Беларусі.
**16.10** «Як нараджаецца музыка?» Беларускія дзеці на Міжнародным музычным конкурсе.
**16.50** «Праз гады...» Сустрэча вучняў СШ № 47 г. Мінска са сваёй першай настаўніцай.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Чым багаты...» Беларускі металургічны завод.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** Кубак княгіні Вольгі. Фестываль клубаў інтэлектуальных гульняў у Віцебску.
**19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял (ЗША).
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**22.00** Музычны антракт.
**22.10** Марына Зудзіна ў маст. фільме «Споведзь палюбоўніцы».
**23.40** «Супергол». Агляд матчаў еўрапейскіх футбольных чэмпіянатаў.
**0.25** «Я люблю джаз». Канцэрт саксафаніста А. Казлова (Масква).

### ГРТ

**10.15** «Лясныя казкі». Мультфільм.
**10.30** «Адгадай мелодыю». Тэлегульня.
**11.10** Тэлерадыёкампанія «Мір».
**14.20** «Віджыт спяшаецца на дапамогу».
**14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія».
**14.50** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, або Сінема.
**15.35** «Элен і хлопцы». Серыял.
**16.00** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.20** «Сакрэт Трапіканкі». Серыял.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю». Тэлегульня.
**19.00** «Мы». Аўтарская праграма У. Познера.
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**20.00** Гадзіна.
**20.45** «Зімовая вішня». Маст. фільм 2-я серыя.
**21.45** Тэлешоу «50х50».
**22.50** Масква — Крэмль.
**23.20** Ралі Парыж — Гранада — Дакар.
**23.30** «Т. С. Н.» Серыял.

### Канал «Расія»

**6.30** Час дзелавых людзей.
**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**7.25** Патрабуюцца...
**7.30** Зоркі гавораць.
**7.35** Рытміка.
**7.50** Усяго патроху.
**8.45** Музычны экспромт.
**9.00** Момант ісціны.
**9.50** Ключавы момант.
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** Мульці-пульці. «Ну, пачакай!»
**10.50** «Камень сноў».
**11.15—11.30** Новая лінія.
**15.05** Там-там навіны.
**15.20** Свята кожны дзень.
**15.30** Старты надзей.
**15.50** Каляндар.
**16.20** Новая лінія.
**16.50** Ніхто не забыты.
**16.55** Кінаафіша.
**17.10** Ваша права.
**17.25** Вуснамі дзіцяці.
**17.55** «Пецярбургскія тайны». 5-я серыя.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Рабро Адама». Маст. фільм.
**21.10** Даміно Міхаіла Баярскага.
**21.40** Рэк-тайм.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** «Вобразы кахання». Дзённік кінафестывалю.
**22.50** Зоркі сусветнага экрана.
**23.40** Прыватная калекцыя.

### НТБ

**17.00** «Малыш і Карлсан».
**17.30** У пошуках прыгод.
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Герой дня.
**19.00** «Арлы юрыспрудэнцыі». Маст. фільм (ЗША).
**21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач».
**22.30** Часінка.
**23.20** Меламанія: група «Рэйн-боу».

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.15** «Мануэла».
**13.00** Хуткая дапамога.
**13.30** Парады садаводам.
**13.40** «Снеданне з відам на Эльбрус». Маст. фільм.
**14.55** «Навагодняя ноч». Мультфільм.
**15.05, 21.35** Музычны момант.
**15.15** Стыль жыцця.
**15.40** «Нямецкая хваля».
**16.00** «Еўрапейскі калейдаскоп».
**16.30** Дзецям пра зверанят.
**17.00** Па ўсёй Расіі.
**17.10** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**19.00** «Мануэла».
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.00** «Кеміне». Маст. фільм (Туркменія).
**22.00** Спорт, спорт...
**22.15** Дзень нараджэння.
**22.20** Кансерватар. Праграма Ігара Масленікава.
**22.45** «Пуць 29». Маст. фільм (ЗША).

## ФІЛЬМАТЭКА

- «НОЧ ПЫТАННЯЎ»
- «ЛЕГЕНДА ПРА ФРАНКЕНШТЭЙНА»
- «НА ХАЛЯВУ»
- «ЖАНОЧЫ КЛУБ»

**Новую мастацкую кінастужку «НОЧ ПЫТАННЯЎ» прапануюць увазе гледачоў кінамайстры Украіны. Яе пастаноўку па свайму сцэнарыю ажыццявіла рэжысёр Таццяна Мачар.**

...Кіеўскі ўрач Юрый Кліменка акрамя высокай прафесіянальнай кваліфікацыі хірурга адрозніваецца цвёрдай непадкупнасцю. Ніякіх «левых» аперацый, ніякіх узнагарод ад удзячных пацыентаў. Жыве таму цнатліва, а па разуменню яго жонкі Каці — проста па-жабрацку. З-за чаго Кацярына часта наладжвае скандалы, адзін з якіх заканчваецца разрывам. Жонка едзе ў другі горад да роднай маці і дзесяцігадовага сына. Таленавіты, непадкупны, бедны, але ганарлівы Юрый застаецца адзін. Вядома, такія мужчыны, як ён, у адзіноце доўга не застаюцца. У яго тайна і яўна даўно закаханы медсёстры і ўрачы бальніцы. А маладая актрыса Наташа, якая выпадкова знаёміцца з ім, улюбляецца ў хірурга з першага погляду. Наташа жорстка адштурхоўвае былога жаніха Сяргея. Юрый перасяляецца да новай нявенчанай жонкі...

У галоўных ролях заняты Вера Глаголева, Івар Калныньш, Люба Дзямчук, Аляксей Серабракоў.

**Амерыканскімі кінематаграфістамі створана мастацкая кінастужка «ЛЕГЕНДА ПРА ФРАНКЕНШТЭЙНА». Аўтары сцэнарыя — Стэф Лэдзі і Фрэнк Дэйрэбонд, рэжысёр — Кенет Бранак.**

Арыгінальная назва фільма — «Франкенштэйн Мэры Шэлі», але ці шмат яно сказала б нашаму гледачу? Ці многія ведаюць, што ў пачатку мінулага стагоддзя юная сяброўка Байрана, якая стала пасля жонкай паэта Шэлі, склала жахлівую гісторыю пра маладога хірурга, які кінуў выклік маці-прыродзе і самому Богу! Народжаны фантазіяй Мэры Шэлі, урач Віктар Франкенштэйн, намерыўся стварыць штучнага чалавека. «Сыравінай» для яго работы служылі часткі цела і ўнутраныя органы пакараных злачынцаў, і жахлівая істота, у якой было няшмат чалавечага, у рэшце рэшт атрымлівае жыццё. Чаго толькі няма ў рамане Мэры Шэлі! Гістарычная легенда і прыгодніцкая інтрыга, элементы навуковай фантастыкі і змаганне любоўных страсцей, складаныя філасофскія разважанні аб прыродзе чалавечага быцця і дзёрзкі эксперымент. Вядома шмат фільмаў пра Франкенштэйна (першы зняты ў 1910 годзе). Але наш расказ — аб фільме, які ў адпаведнасці са сваёй назвай прытрымліваецца літары і духу знакамітага рамана. Ідэя гэтай экранізацыі належыць Ф. Ф. Копале. Але пастаноўку Копала даверыў маладому англійскаму рэжысёру Кенету Бранану...

У фільме здымаліся Роберт Дэ Ніра, Кенет Бранан, Том Халс, Хелена Бонкем.

**Пастаноўку амерыканскай мастацкай кінастужкі «НА ХАЛЯВУ» ажыццявіў рэжысёр Том Трбовіч.**

Героі фільма вучацца ў каледжы містэра Манро. Каледж разлічаны на дзяцей багатых бацькоў, і, магчыма, менавіта таму тут з першых дзён навучальнага года выхаванцы не вельмі пакутуюць ад вучобы і не вельмі лічацца з дысцыплінай і правіламі ўнутранага распарадку. Вядома ж, не абыходзяць увагай і дзяўчынак. Словам, строгаму дэкану Стонвелу прыходзіцца з імі нялёгка. Асабліва шмат клопатаў прыносяць Дэн Гордан і Крэйг Новак, якіх лёс звёў з маласімпатычнымі асобамі з мафіёзнага клана «бацькі Гарбоджыя».

Гэты «просты бацька» мае намер утаіць ад сваіх сынкоў невялікую суму (чвэрць мільёна долараў), нажытую зусім не праведнай працай. Дзеткі з гэтым эміравацца не змаглі, сталі шукаць грошы, даведаліся, што яны схаваны ў машыне бацькі... І тут Дэн Гордан даведваецца пры гэтую самую машыну — захацелася пусціць пыл у вочы чарговай сяброўцы. А пазней ён разам са сваім суседам па пакоі Крэйгам Новакам знайшоў пад сядзеннем рэчмяшок, набіты купюрамі...

Галоўныя ролі выконваюць Геры Хершбергер, Рыд Рудзі, Дон Шнэйдэр.

**Змогуць паглядзець гледачы і амерыканскую мастацкую кінастужку «ЖАНОЧЫ КЛУБ». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Сандра Вайнтрауб.**

Патрык Раен — пачынаючы сцэнарыст. Ён таленавіты, аднак сцэнарыі вяртаюцца да яго з адмоўнымі адказамі.

А гэта значыць, што Патрык сядзіць без грошай і яму няма чым нават заплаціць за кватэру. Не разумее страсці творчасці і любімая дзяўчына Патрыка. Між імі адбываецца разрыў, і Патрык, спрабуючы забыцца, заходзіць у адзін з бараў, дзе нечакана знаёміцца з прыгожай імпазантнай жанчынай...

Цікава праводзяць свае ролі Майкл Парэ, Мод Адамс, Эдзі Велез, Мімі Уікліф.



ВІНШУЕМ!
Нашага калегу Віктара Шумара з нараджэннем першынца — дачушкі!
ЗДАРОЎЯ і ШЧАСЦЯ новаму чалавеку і ўсёй сям'і!

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС*: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».
*ТЭЛЕФОНЫ*: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. *ФАКС*: 32-04-52, 68-28-77.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.191. Індэкс 63850.
Зак. № 64.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12